PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (2209) Год XLIII Беласток 13 верасня 1998 г. Цана 1,20 зл.

Усе мы, тыя, што засталіся, лічым сябе сваякамі...

## Веру: мае дзеці магаметанамі не будуць

Ада Чачуга

Вось кіне часамі лёс чалавека, здавалася б, і недалёка, а адчувае ён сябе, быццам бы жыў за гарамі, за далінамі. А нават за мяжою.

Жыццёвыя сцежкі прывялі **Пятра Германюка** з-пад Белавежскай пушчы, з невялікай вёскі Доўгі Брод, дзе ён нарадзіўся, у горад Аўгустаў над возерам Нэцка. Пару гадоў таму мне давялося пісаць аб гэтым „звычайным кацапе”, што апынуўся ў чужым асяроддзі, а пасля і Гандзя Кандрацюк заўважыла, што толькі на магілах яго бацькоў у вёсцы Вярсток надпісы зроблены па-беларуску.

Ну, не сказаць, каб чалавек сябе адчуваў зусім за мяжою. Вунь калісь, тады Пятро працаваў у Дуброве ў Скарбовай управе каморнікаў, давялося яму першы раз выехаць у вёску Сюлка, што за Ліпскам.

Падыходзіць да мяне чалавек гадоў сямідзесяці, расказвае ён, ды пытае чысцюсенька па-беларуску: „Паночку, каторая гадзіна?” Я здзівіўся і кажу: „А вы можа з Саюза?” „Не, я — паляк, — адказаў ён мне, — але не ўмею гаварыць па-польску”. „Дык які ж вы паляк?” — не сунімаўся я. „Бо я, паночку, хаджу да касцёла”, — растлумачыў мне жыхар Сюлка з Ліпскай гміны.

Значыць, наўкола тут беларусы, канстатуе Пятро Германюк. Але вазьмі ты растлумач гэта ім. Тутэйшыя! Палякі — бо моляцца ў касцёле, хрысцяцца цэлай далонню, а не трыма пальцамі, ды святкуюць па новым стылі. А душа — беларуская, і мова такая ж, якой навучыліся ад маці.

А ці ведаеце вы ў Аўгустове беларусаў-каталікоў? — аж карціць мне запытацца.

Пятро Германюк за адказам у кішэнь не палез. Я то іх ведаю, кажа, але яны думаюць, што я не ведаю, што яны беларусы. Нат калі яны размаўляюць між сабою па-беларуску, дык барані Божа, каб не пачулі іх дзеці. Хаваюцца ад іх са сваёй мовай і паходжаннем. Мо баяцца, каб іхніх дзяцей не праследавала, як іх саміх, пачуццё горшасці ў каталіцкім касцёле.

На каталікоў у сям'і Пятру Германюку пашанцавала. Ён праваслаўны, а жонка — каталічка. Аднак жа шлюб бралі ў царкве і ў царкве дзяцей хрысцілі. І дай Божа, каб праваслаўныя маці так выхавалі дзяцей! Усе яны — беларусы, ды так і пішуцца.

Старэйшы сын Ігар на студыях у Гданьску таксама пакахаў дзяўчынукаталічку. Перад шлюбам пайшла яна

[працяг ☞ 5]



Новая гімнастычная зала.

# Школа XXI стагоддзя

Ганна Кандрацюк

**Пачатковая школа ў Кляшчэлях мае новую гімнастычную залу, з саунай і сілоўняй. Яе адкрыццё зышлося з пачаткам навучальнага года 1998/99.**

Два гады раней у Кляшчэлях адкрылі новую школу.

— Заняткі па фізкультуры мы праводзілі на калідорах. Дадатковай цяжкасцю была адсутнасць спартыўнай пляцоўкі побач школы, — кажа дырэктар школы Ежы Якубоўскі.

Гісторыя пабудовы даволі кароткая, пачалася ў 1995 годзе. Аднак толькі пасля завяршэння школы праца набрала тэмпы. Праект будынка належыць беластоцкаму архітэктару Мацею Пакорскаму а выканаўцам была суполка „Унібуд С.А.”

Як падлічыў бурмістр Кляшчэль Аляксандр Сяліцкі, зала каштавала мільён шэсцьсот тысяч злотых. Па трыста тысяч атрымалі ад Кураторыі і Ведамства фізкультуры і турызму, чатырыста даў былы прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч.

— Pan premier duszą i sercem był razem z nami. Jego gest w postaci czterystu tysięcy to dowód wielkiego serca dla nas, — гаварылася ў час мерапрыемства.

Воплескі і гарачую падзяку выказалі ўлады Кляшчэль у бок прэзідэнта Рэ-

[працяг ☞ 3]


Сцяганосцы.

## Перад выбарамі

21 жніўня 1998 года ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылася сустрэча членаў Беларускага выбарчага камітэта і іншых асоб зацікаўленых выбарамі. Рэзультатам дыскусіі было пераўтварэнне БВК у Беларуска-народны выбарчы камітэт.

[болей ☞ 3]

## Улада і грамадства

Два месяцы таму выйшла кніжка Сяргея Аўсянніка і Алены Стралковай *Władza a społeczeństwo. Białoruś 1991-1998*. Беларускія журналісты сваю працу пабудавалі на афіцыйных выказваннях вядомых асоб палітычнага жыцця ў Беларусі, а таксама на прэсавых каментарыях. Некрытычны падыход да ўсяго, што публічна было сказана, не дазваляе чытачу разабрацца ў механізмах, якія кіравалі падзеямі ў Беларусі. Невядома нават адкуль узялася „вельмі дзіўная незалежнасць”, як акрэсліваюць стан беларускай дзяржаўнасці самі аўтары.

[рэцэнзія ☞ 4]

## У мяне песні простыя

— Пішу, — кажа Аляксандр Шыдлоўскі, — бо песня можа адрадзіць культуру. У адраджэнні вялікую ролю адыгрывае традыцыйная, меладычная, лірычная песня. Яна закранае ўсе стрункі чалавечай душы. Калісьці Генадзь Цітовіч заўважыў, што я пішу песні як бы народныя. Напрыклад, у Ігара Лучанка мелодыя надта граматная, а ў мяне песні простыя, меладычныя, каб запаміналіся.

[госць рэдакцыі ☞ 5]

## „Рунь” — газета беларусаў Літвы

— „Рунь” — наша сталічная віленская газета, — расказвае галоўны рэдактар Алег Мінкін. — Стараемся, каб была разнастайная, цікавая, пра нашае жыццё тут. У нас дужа багата матэрыялу мемуарнага плану. Што ні віленчук, то легенда, сам горад мае незвычайную аўру, ён **памятае**.

[прэзентацыя ☞ 8]

## З палону ў палон

28 верасня 1939 г. здалася Варшава і мы таксама ў форме здаваліся немцам. Загналі нас пяшком пад вечар у Яблонну і сказалі: дадому не пойдзеце...

[успаміны ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

**(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)**

**На радыё „Свабода"**

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

Радыё „Свабода" невыпадкова пераехала ў Прагу. Чэшскімі ўладамі тут былі створаны добрыя ўмовы для працы. Для радыё перадалі ў цэнтры горада камфортны будынак былога парламента Чэхаславакіі. Пасля падзелу краіны парламент Чэхіі перабраўся ў іншы будынак. Кажуць, што нават і арэндную плату радыё плаціць умоўна. Фактычна, радыё карыстаецца будынкам бясплатна. На мой погляд, гэта вельмі мудрае рашэнне прэзідэнта Вацлава Гавела. Цяпер па ўсім свеце штодзённа можна пачуць на розных мовах: „Гаворыць радыё «Свабода», Прага". Так вось умацоўваецца прэстыж і расце вядомасць у свеце краіны Чэхіі.

Супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Мікола Іваноў не пашкадаваў асабістага часу ў выхадны дзень і арганізаваў для нашай вандроўнай групы экскурсію па будынку радыё. Тут усё зроблена па-сучаснаму — рабочыя месцы, студыі, усё, што трэба для ўтульнага побыту чалавека падчас адказнай працы. Калі аглядалі залу прыёмаў, успомнілася, што менавіта тут мне нададзілася магчымасць пабачыць знакамітых людзей — прэзідэнта Чэхіі і жонку прэзідэнта ЗША Хілары Клінтан. Гэта было падчас візіту ў Прагу спадарыні Клінтан некалькі гадоў таму. У той час я знаходзілася на радыё. Вацлаў Гавел суправаджаў высокую госцю. Спадарыня Хілары мела прамову перад супрацоўнікамі радыё. Мы ўсе сабраліся ў зале прыёмаў. Група высокіх гасцей прайшла скрозь залу. Хілары Клінтан прывітала журналістаў, паціскала працягнутыя ёй рукі, міла ўсміхалася. Здаецца, што яна падабалася ўсім, прыём быў самым цёплым. Я не належала да штату радыё і нейк старалася трымацца збоку. Аднак, госця сама працягнула мне руку і ўсміхнулася сваёй прывабнай усмешкаю. Я ўбачыла звычайную жанчыну, якой, мабыць, не так і лёгка ўвесь час знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, несці на сабе частку адказнай працы свайго мужа.

Пасля экскурсіі па будынку сп. Іваноў запрасіў нас да мікрафона, каб падзяліцца ўражаннямі ад вандроўкі для перадачы.

**У Вроцлаве і ў Варшаве**

Апоўдні пакінулі Прагу. Нас чакала дарога ў Варшаву. Так пачыналася наша вяртанне дамоў. У Нахадзе перасеклі чэшска-польскую мяжу. Дзень быў нядзельны, якраз у Польшчы святкавалася Вербніца, праз тыдзень чакаўся Вялікдзень. Выглядала ўсё прыгожым, людзі рыхтаваліся да свята.

З цікавасцю агледзелі па дарозе адзін з буйнейшых гарадоў Польшчы — Вроцлаў. Вельмі своеасаблівы горад, адчуваецца сівая даўніна. Мінулым летам на гэтыя мясціны абрушылася бедства — вялікая паводка. Горад стаіць на раўніне, якая пачынаецца ад Горнага Шлёнска. Гэты раён мае адпаведна назву Дольны Шлёнск. Два тыдні горад быў затоплены, пацярпелі многія будынкі, маёмасць людзей. Увосень тут ляжалі цэлыя горы выкінутай з дамоў скарабачанай мэблі і іншых рэчаў. Цяпер гэта ўсё ўжо прыбрана, але сляды паводкі яшчэ відаць, многа дзе рамантуюцца дамы, дарогі. Пэўна, ліквідацыя наступстваў бяды нанесла гораду вялікія выдаткі.

Для беларусаў Вроцлаў таксама памятнае месца. Тут у 1918 г. нямецкі прафесар Рудольф Абіхт разам з вядомым Янкам Станкевічам выдаў беларускую граматыку для немцаў (горад тады знаходзіўся ў Нямеччыне і меў назву Брэслаў).

Вечарам прыехалі ў Варшаву, дзе ізноў начлег залатвіў нам Янка Заброцкі. Назаўтра сабраліся ў Цэнтры па вул. Гагарына 15. Адсюль пачыналася наша вандроўка, тут мы і кароткa падсумоўвалі яе вынікі разам са сп. Заброцкім. Падзяліліся ўражаннямі, сп. Заброцкі расказаў нам пра апошнія навіны з Беларусі. Нас вельмі цікавіў стан здароўя Алеся Баршчэўскага, які знаходзіўся ў шпіталі. Вальней уздыхнулі, калі даведаліся, што яму палепшала. Шчыра падзякавалі гасціннаму гаспадару Цэнтра і пакінулі свой апошні прыстанак у замежнай Еўропе.

*(заканчэнне будзе)*

**Ганна Сурмач**

## У ліцэй прыйшоў новы дырэктар

**Нарэшце скончылася супрацьстаянне вакол Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.**

У ліцэй прызначаны новы дырэктар — 56-гадовы Мікалай Плескацэвіч, прарэктар Педагагічнага універсітэта. Уладзімір Колас, які кіраваў ліцэем з дня ягонага заснавання, пагадзіўся заняць пасаду намесніка дырэктара.

Сам Уладзімір Колас пераконвае ўсіх, што ніякія кадравыя змены не паўплываюць на якасць педагагічнага працэсу — ліцэй будзе працаваць, як і раней. Застанецца працаваць у ліцэі і Лявон Баршчэўскі, які выкладае літаратуру. Аднак ён быў пазбаўлены пасады намесніка дырэктара. Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Я. Коласа падпісаў пагадненне з Педагагічным універсітэтам аб каардынацыі працы. Як паведаміў новы дырэктар ліцэя Мікалай Плескацэвіч, Педагагічны універсітэт будзе дапамагаць ліцэю.

Па словах Уладзіміра Коласа, бацькі былі расчараваны зменай кіраўніцтва, аднак ніхто сваіх дзяцей з ліцэя не забраў — усе паверылі абяцанням адміністрацыі, што нічога не зменіцца.

**Расціслаў Пермякоў**

*„Навіны", № 88, 25.08.1998 г.*

## Епіскап — „злосны хуліган"

БелаПан і Беларуская служба Радыё „Свабода" паведамілі, што 21 жніўня г.г. мінскі раённы суд прыгаварыў епіскапа Пятра Гушчу — галаву Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы — на тры гады турмы за „злоснае хуліганства". Гушчу абвінавацілі ў распусных дзеяннях у дачыненні да дзвюх дзяўчынак — 8- і 10-гадовай. Гушча запэўнівае, што ён не вінаваты, і лічыць, што ўсю справу сфабрыкавалі, каб адвесці людзей ад аспрэчвання рэлігійнай дамінацыі Рускай праваслаўнай царквы. Царква, якую ўзначальвае Гушча, налічвае 4000 вернікаў і з'яўляецца яна незалежнай ад Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы.

*RFE/RL Newsline, 25.08.1998*

## Сусветны банк адступаецца з Беларусі

26 жніўня г.г. ІТАР-ТАСС паведаміла, што калі Дэйвід Філіпс — прадстаўнік Сусветнага банка ў Мінску — за два тыдні пакіне Беларусь, ніхто яго не заменіць. Д. Філіпс сказаў журналістам, што галоўнай прычынай яго ад'езду з'яўляецца недастатковае ўжыццяўленне эканамічных рэформаў, на якія Сусветны банк і Беларусь пагадзіліся ў чэрвені 1997 г. Д. Філіпс адзначыў некаторыя станоўчыя аспекты ў беларускай эканоміцы — значны ўзрост унутранага валавога прадукту і прамысловай вытворчасці. Але тут жа ён дадаў, што рост гэты — вынік, галоўным чынам, узнаўлення працы ў прадпрыемствах, якія раней былі закрыты ды нанава ўстаноўленага доступу да расійскага рынку. Д. Філіпс дадаў яшчэ, што нельга вытрымаць гэты рост без структурных пераўтварэнняў у гаспадарцы і вялікіх замежных інвестыцый.

*RFE/RL Newsline, 28.08.1998*

2 верасня 1998 г. на 66 годзе жыцця памёр
**Мікола ГАЙДУК**
пісьменнік, публіцыст, журналіст,
былы намеснік галоўнага рэдактара „Нівы".
Шчырыя спачуванні Сям'і Нябожчыка
ў сувязі з напаткаўшым Іх горам
выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".

Глыбокія спачуванні жонцы і дочкам па поваду смерці мужа і бацькі
**Мікалая Раманавіча ГАЙДУКА**
выказваюць Дырэктар, Педагагічны савет
і вучні Бельскага беларускага ліцэя.

Сям'і і блізкім шчырыя спачуванні з прычыны заўчаснай смерці
**Міколы ГАЙДУКА**
выказваюць члены Грамадскага камітэта пабудовы
Музея і Асяродка беларускай культуры
ды Праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы.

Ганна СУРМАЧ:

## „Беларуская справа патрабуе мудрасці і мужнасці"

***(фрагменты інтэрв'ю)***

— Хачу падзякаваць газеце „Звязда", якая паведаміла на сваіх старонках пра трэцюю міжнародную канферэнцыю „Культура і адукацыя беларускага замежжа", што праводзілася сёлета ў пачатку ліпеня ў Беластоку. Праўда, спадар Сычэўскі, чыё інтэрв'ю было змешчана ў якасці анонса да да гэтай канферэнцыі, не меў ніякіх адносінаў да яе правядзення, і дарэчы, арганізацыя, якую ён узначальвае — Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) — нават не прымала ўдзел у гэтым даволі заўважным беларускім мерапрыемстве. Хаця была запрошана. Прынамсі яшчэ больш пытанняў на Беласточчыне выклікаў сам змест інтэрв'ю Яна Сычэўскага, у якім ён спрабуе даць нейкую характарыстыку беларускага руху на Беласточчыне, сваё разуменне сучаснай сітуацыі. З выказанымі ім ацэнкамі многія не пагадзіліся... Спадар Сычэўскі кажа пра раскол беларускага руху на Беласточчыне. Але фактычна гэта зусім не так. Дакладней, паміж той часткай беларусаў, якія падтрымліваюць БГКТ і ўсімі астатнімі беларускімі арганізацыямі, а іх нямала, ёсць пэўныя непаразуменні. Але віной таму найчасцей з'яўляецца якраз само БГКТ, якое не заўсёды ідзе на канструктыўнае супрацоўніцтва з іншымі беларускімі арганізацыямі ў Беластоку.

(...)

***— Наколькі канструктыўнай была канферэнцыя?***

— Па-першае, прагучала некалькі вельмі сур'ёзных аналітычных дакладаў па праблемах развіцця беларускай культуры ў замежжы. Выступалі кіраўнікі беларускіх суполак. Надзвычай актуальным атрымалася выступленне Сакрата Яновіча, падчас якога зацікаўленая гаворка, абмеркаванне пытанняў адбывалася з прадстаўнікамі польскіх уладаў. Беларускія арганізацыі Беласточчыны ўзнялі пытанне аб адкрыцці Беларускага культурнага цэнтра ў Беластоку, у адміністрацыйным цэнтры ваяводства. Справа ў тым, што ў Гайнаўцы пабудаваны беларускі музей, меркавалася, што ён будзе цэнтрам беларускай культуры на Беласточчыне. Але Гайнаўка ёсць гмінны горад, які знаходзіцца даволі далёка ад Беластока. І прэтэндаваць яму на культурны цэнтр, відаць, даволі складана. З гэтай нагоды канферэнцыя прыняла адпаведную рэзалюцыю. Яшчэ на канферэнцыі многа гаварылася пра беларускае школьніцтва на Беласточчыне (...). Сітуацыя такая, што на Беласточчыне сёння няма цалкам беларускіх школ. Канферэнцыя мусіла канстатаваць, што беларускае школьніцтва на Беласточчыне амаль што на нулі.

***— Ці маглі б вы распавесці чытачам „Звязды" пра сённяшнюю сітуацыю з беларушчынай у Польшчы?***

— Я думаю, што многа спрэчных пытанняў існуе ў беларускім руху на Беласточчыне. Даваць ацэнкі, характарызаваць сітуацыю — надзвычай адказная справа. Гэта тэма патрабуе асобнай гаворкі і, спадзяюся, я буду мець такую магчымасць. Адно толькі можна з упэўненасцю сказаць, што беларускасць жыве ў Беластоцкім краі і вялікі дзякуй за гэта нашым суродзічам.

(...)

**Гутарыла Таццяна Антонава**

*„Звязда" № 164, 21.08.1998 г.*

*Ганна Сурмач — старшыня Галоўнай рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", суарганізатар вышэйзгаданай канферэнцыі.*

# Школа XXI стагоддзя



*Настаўніцы кляшчэлеўскай школы. Другая злева: Яўгенія Такаюк, кіраўнік калектыву „Лясныя Скамарохі"; трэцяя: беларусістка Ірына Тамашук.*

[1 ☞ *працяг*]
чы Паспалітай. Аляксандр Кваснеўскі падарыў для новай залы набор прылад для скачкоў у гару.

— Aby poprzeczka waszych możliwości była wciąż podnoszona, — пажадаў Роберт Смолень, прадстаўнік Канцылярыі прэзідэнта.

У падобным тоне задумаў выказаць свае пажаданні пасол Ян Сычэўскі. Гэтым разам гаварыў толькі на польскай мове. Пасол пажадаў вышэйшага інтэлектуальнага і маральнага ўзроўню, а таксама *i by stosunki między wyznaniami były harmonijne i symfoniczne.*

У час урачыстасці спявалі „Лясныя Скамарохі", а ў іх рэпертуары былі таксама беларускія песні. Залу звонку і ўсярэдзіне пасвяцілі святары праваслаўнай і каталіцкай парафій.

**Хто сказаў што школа беларуская?**

Два гады раней, калі ў Кляшчэлях адкрывалі новую школу, шмат пісалася і гаварылася пра яе як установу для беларускай меншасці. Параўноўвалі яе нават з польскай школай у Гродне.

— Толькі адзінкі вывучаюць беларускую мову, — кажа Ірына Тамашук, беларусістка.

На ўсю школу толькі пятая частка ходзіць на гэты прадмет (да 50 асоб). У новай школе няма кабінета беларускай мовы. Апошнім часам БГКТ ладзіць у школе сцэнічныя і песенныя агляды. Статыстыка аднак паказвае, што колькасць навучэнцаў роднай мовы не павялічваецца.

— Хто сказаў, што школа ў нас беларуская? — здзіўляецца беларусістка.

— Сярод школьнікаў многа вучняў беларускай нацыянальнасці. Праваслаўныя складаюць звыш 60% ад агульнай колькасці вучняў. І, мабыць, таму школу называюць беларускай, — кажа Ежы Якубоўскі.

**Перспектыўная школа**

Гміна Кляшчэлі мае на сваёй тэрыторыі тры школы. Апрача згаданай знаходзяцца тут пачатковыя школы ў Дашах і Саках. Іх далейшае існаванне — бесперспектыўнае па прычыне адміранне вёсак.

У найбліжэйшай будучыні на тэрыторыі гміны будзе працаваць толькі школа ў Кляшчэлях. Дэмаграфія тут яшчэ даволі прыстойная. Зараз у першы клас прыйшло 35 дзетак.

— Кляшчэлі маюць цяпер школу XXI стагоддзя, — гавораць бацькі школьнікаў.

Шкада толькі што беларуская мова мае тут другараднае значэнне. Без разумення ўласных каштоўнасцей *poprzeczki się nie podniesie.*

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

# Напярэдадні выбараў

18 чэрвеня г.г. завяршылася кадэнцыя гмінных рад. Як працавала Гмінная рада ў Чаромсе? Ці радныя апраўдалі давер сваіх выбаршчыкаў? — пытаюцца многія жыхары гміны.

Трэба адзначыць, што многае змянілася ў апошнія гады ў Чаромхаўскай гміне. Шыкарныя дарогі, асфальтаваныя вуліцы, мадэрнізаваныя электрычная лінія і вулічнае асвятленне, пабудаваны водаправод і ачышчальня сцёкаў, адкрыты чыгуначны і дарожны кантрольна-прапускныя пагранічныя пункты — гэта некаторыя з важнейшых інвестыцый, якія праводзіў мясцовы самаўрад.

Не без значэння застаецца факт, што важаком усіх чаромхаўскіх пачынанняў быў старшыня праўлення Гміннай управы, чалавек адданы справе, які разумна гаспадарыў гмінным бюджэтам. І зараз, калі спыніла сваю дзейнасць Гмінная рада, паспяхова праводзіць планавую інвестыцыю разбудовы будынка гміннай управы, нягледзячы на тое, ці ў будучым застанецца на цяперашняй пасадзе ці не.

Неаднойчы ў размовах з жыхарамі чуў я галасы пашаны ў адрас войта гміны Міхала Врублеўскага.

Што чакае Чаромхаўскую гміну і яе жыхароў у бліжэйшую будучыню, цяжка зараз сказаць. Стаім напярэдадні самаўрадавых кастрычніцкіх выбараў. Ад мясцовага электарату залежаць будзе каму ён даверыць.

У канцы жніўня створаны выбарчыя камітэты, якія павядуць выбарчую кампанію і зарэкамендуюць кандыдатаў на радных.

Вёску Кузаву прадстаўляць будзе Янка Найбук — дырэктар Шпалапрапітачнага завода, ураджэнец і жыхар Кузавы. Гэты грамадскі дзеяч вядомы амаль кожнаму жыхару Чаромхаўскай гміны. Спагадлівы і ветлівы, шчыры і амбітны чалавек, які разумее іншага і патрапіць наладзіць адпаведныя міжлюдскія суадносіны. Апраўдаўся ён на пасадзе дырэктара, карыстаецца вялікім аўтарытэтам у сваіх падначаленых. Спадзяюся, што наш аднавясковец, калі стане радным, будзе годна прадстаўляць кузаўцаў і бараніць іх спраў. Гэта сапраўды трапная кандыдатура.

**Уладзімір Сідарук**

# Камітэт для ўсіх беларусаў

21 жніўня 1998 года ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылася сустрэча членаў Беларускага выбарчага камітэта і іншых асоб зацікаўленых выбарамі. Рэзультатам дыскусіі было пераўтварэнне БВК у Беларуска-народны выбарчы камітэт. БНВК намервацца падрыхтаваць і правесці выбарчую кампанію ў рады гмінаў Гайнаўка, Белавежа, Чыжы, Нарва, Нараўка, Дубічы-Царкоўныя, Кляшчэлі, Чаромха, раду горада Гайнаўка, а таксама ў раду Гайнаўскага павета.

Створана была ўправа Камітэта, старшынёю якой стаў Міхал Голуб, а яго намеснікамі — Пётр Саковіч і Міхал Андрасюк. У бліжэйшым часе БНВК плануе прыняць выбарчую праграму, падабраць кандыдатаў на радных і шукаць фінансавыя сродкі на выбарчую кампанію.

— Беларуска-народны выбарчы камітэт — гэта камітэт для ўсіх беларусаў, незалежна ад іх палітычных поглядаў, бо ў самаўрадах справа арыентацыі не найважнейшая, важнейшыя турботы за свой горад, — кажа Міхал Андрасюк, намеснік старшыні ўправы БНВК. — Левыя дэмакраты прапанавалі нам супольную кааліцыю пад шыльдай СЛД. Паколькі аднак не ўсе беларусы левай арыентацыі, не рашыліся мы на такі мар'яж. У адрозненні ад партыяў, у нас няма над сабой ніякай палітычнай шапкі, таму лягчэй будзе нам рэалізаваць праграму выбаршчыкаў. Інфармацыі аб тым, што хочам уводзіць беларускую мову ва ўстановах горада, мяняць названні вуліц на беларускія, а такія чуткі распаўсюджваюць некаторыя дзеячы СЛД, гэта няпраўда. Нашы выбаршчыкі такіх прапаноў не выносяць, а калі мяняць нешта, дык перш за ўсю вулічнае палатно.

**Аляксей Мароз**

# Ад гаспадара да стала

Усе сродкі масавай інфармацыі паведамляюць, што сяляне жывуць за рысай убоства, ніжэй сацыяльнага мінімуму. І гэта праўда! Земляробу цяжка прадаць свае прадукты, а калі ўжо адкрыюць дзенебудзь пункт скупкі, то плацяць вельмі мала. Уляды абяцалі, што за тону жыта будуць плаціць 360 злотых, а пшаніцы — 540 злотых. Аднак некаторыя пункты плацяць па 28 грошаў за кілаграм жыта.

У аўтакраме за 0,50 кг. буханку хлеба трэба заплаціць 0,80 злота. Вельмі проста палічыць, што пакуль прадукт трапіць на стол, ён становіцца ў дзесяць і больш разоў даражэйшы за сырэц. Але не адным хлебам жыве вясковы чалавек. Возьмем мясныя вырабы. Малады ялаўняк каштуе 2,40-2,80 зл. за кілаграм, старое быдла — 2,00-1,60 зл., свініна — 3,30 зл. Але ўжо ў краме мясныя вырабы каштуюць надта дорага. За сасіскі трэба ўжо заплаціць 8,60 зл. за кілаграм, а за „звычайную" — 10,80 зл. Гатовыя вырабы каштуюць ужо не дзесяць а дваццаць разоў даражэй за жыўнасць.

Сялянскія арганізацыі, якіх цяпер дзейнічае вельмі многа, слаба абараняюць селяніна. Яны перш за ўсё пільнуюць, каб ён плаціў складчыну, а дзеячы галоўным чынам пільнуюць свае пасады.

**Мікалай Лук'янюк**

# Бедната

Летам на дубіцкім штучным возеры Бахматы і поўна людзей з усяе Польшчы. Пабывала тут таксама група дзяцей з далёкага Кракава. Дзеці хадзілі па Дубічах і прасілі ў людзей свежага хлеба. Сяляне частавалі іх і тыя дзякавалі. За гасціннасць, аднак, вядома чым расплачваюцца, бо дзеці на сваіх паштоўках пачалі пісаць бацькам, што тут вялікая бедната, а людзі гутараць паміж сабою па-беларуску і гэта ім вельмі не падабаецца. І прасілі бацькоў прысылаць грошы, бо тут яны не пражывуць. Мо яны думалі, што нашы людзі будуць іх дарэмна карміць.

Мы паказалі добрае сэрца і спагаду. А ці ў нас такая бедната? У кожнага селяніна свой трактар, у многіх свае самаходы, добрыя гаспадарчыя будынкі.

А тыя дзеці, відаць, паходзяць або з сем'яў багатых бізнесменаў, або з апошніх галышоў.

**(мп)**

# Навіны з Гайнаўшчыны

**Найлепшыя пажарныя каманды**

30 жніўня гэтага года на гайнаўскім стадыёне адбыліся раённыя спаборніцтвы добраахвотных пажарных каманд. Удзельнічалі 17 калектываў ОСП (136 чалавек).

Пераможцамі сталі пажарнікі з Чаромхі. Другое і трэцяе месца занялі каманды з Кляшчэляў і Новага Корніна. У Чаромсе 38 актыўных пажарнікаў, у Кляшчэлях — 74, а ў Новым Корніне — 27 асоб.

Сярод маладзёжных каманд (юнакі ва ўзросце 15-18 гадоў) найлепшай была каманда з Чаромхі. Перамагла яна каманды з Махнатага і Кляшчэляў.

За першынство змагаліся таксама самыя маладыя пажарнікі (ва ўзросце 12-15 гадоў). Дружына з Нарвы перамагла кляшчэлеўскую каманду.

**Гасцініца „Ажахоўскі" ў Гайнаўцы**

У Гайнаўцы па вул. Пілсудскага адкрылі па-сучаснаму абсталяваную гасцініцу „Ажахоўскі". У ёй 60 начлежных месц у 29 пакоях — з адным, двума і трыма тапчанамі. У кожным пакоі тэлевізар і тэлефон. Адну залу ў гасцініцы адвялі пад більярд. Зматарызаваныя турысты свой самаход могуць паставіць на стаянку пад наглядам.

9 жніўня г.г. у гасцініцы Збігнева Ажахоўскага здалі ў карыстанне рэстаран на 160 месц. У ім падаюць французскія, венгерскія, аўстрыйскія ды традыцыйныя польскія стравы.

**Новая спортзала ў Белавежы**

1 верасня г.г. здалі ў карыстанне спартыўную залу пры Пачатковай школе ў Белавежы. Мае яна 540 квадратных метраў плошчы. Выканаўцам аб'екта была фірма „Унібуд" з Бельска-Падляшскага.

Варта адзначыць, што вельмі актыўна працаваў Грамадскі камітэт пабудовы школьнай спортзалы. Шмат дапамаглі мясцовыя прадпрыемствы і ўстановы. За тэрміновым заканчэннем пабудовы залы сачыў таксама войт белавежскай гміны Станіслаў Куявяк.

**Прыдарожныя разваліны і... цацка**

Зараз разбураныя прыдарожныя аўтобусныя пачакальні ПКС знаходзяцца між іншым у Пратасах, Іванках-Рагазах ды ў Храбустоўцы, што на шляху з Беластока ў Гайнаўку. І ніхто — хаця ўжо часу прайшло нямала — іх не рамантуе.

Зусім іншы падыход да сваёй пачакальні на аўтобусным прыпынку маюць жыхары Трывежы (Гайнаўская гміна). Ён у іх вёсцы зусім як... прыгожая цацка. Вось як!

**(гай)**

# Распачынаецца школьны год

23 жніўня 1998 года ў бібліятэцы Беларускага музея ў Гайнаўцы праходзіла метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Канферэнцыю адкрыла метадыст Ніна Абрамюк. Гаварыла яна пра метадычныя дапаможнікі і часопісы, якія можна выкарыстаць на занятках беларускай мовы, спасылаючыся адначасна на матэрыялы, якія дасылаюць з Беларусі. Паінфармавала прысутных пра першы метадычны дапаможнік для беларусістаў, у якім дадзены распрацоўкі ўрокаў у II-VIII класах.

Метадыст Ніна Абрамюк падрыхтавала згаданы дапаможнік, выкарыстоўваючы распрацоўкі ўрокаў свае і настаўнікаў белурскай мовы: Валянціны Базылюк, Веры Флярчук, Марыі Крук, Галіны Трашчотка, Тамары Грыгарук і Тамары Бялькевіч. Пра рэформу школьніцтва яна гаварыла нямнога, інфармуючы, што яе дэталёвая распрацоўка яшчэ не завершана. Вядома, што ў гэтым школьным годзе трэба будзе ўжо скласці новыя праграмы навучання, што гэта могуць рабіць настаўнікі самастойна або ў калектыве, што праз год уваходзяць гімназіі.

Пасол Ян Сычэўскі, які быў госцем сустрэчы, гаварыў пра конкурсы для школьнікаў, якіх суарганізатарам з'яўляецца БГКТ. Візітатар падставовых школ Тамара Русачык паінфармавала пра кадравыя змены. Высветлілася, што Ніна Абрамюк будзе працаваць метадыстам толькі да 31 жніўня і ад 1 верасня вяртаецца на працу ў Падставовую школу ў Нарве, а метадыстам стане Тамара Русачык. Гаворачы пра сваю будучую працу, спадарыня Русачык звяртала ўвагу на змены, звязаныя з рэформай, на новыя праграмы, якія трэба распрацаваць у метадычных калектывах і на патрэбу супрацоўніцтва з асяроддзем.

— Я задаволена сваёй працай як метадыст беларускай мовы, — гаворыць чытачам „Нівы" спадарыня Ніна Абрамюк. — Мы працавалі плённа, а прысутнасць у час настаўніцкіх сустрэч і канферэнцый была вялікая. Настаўнікі атрымлівалі метадычныя дапаможнікі, якія выкарыстоўвалі ў сваіх школах. Арганізавалі мы супольныя мерапрыемствы з вучнямі, бацькамі і настаўнікамі гайнаўскіх школ, у арганізацыю якіх уключаўся таксама і Гайнаўскі аддзел БГКТ. Рэалізавалі мы ў школах рэгіянальныя тэмы, паказвалі святы і вяселле. Добра склалася супрацоўніцтва з настаўніцкімі арганізацыямі, Метадычным асяродкам у Беластоку і Куратарыяй, а настаўнікі самі дадуць ацэнку.

**Аляксей Мароз**

# Нашы карані

**CXXV. Асветніца**

Уз'яднанне ў адзінай сям'і з праваслаўнымі было для уніятаў незвычайным духовым і маральным узвышэннем, вяртаннем ім чалавечай годнасці.

Уніятамі, як вядома, былі людзі простыя: паншчынныя сяляне, парабкі, рамеснікі, мястовая бядота. Іх называлі „быдлам", „хамамі", іхнюю уніяцкую веру — „хамскай", а уніяцкія касцёлы — „шопамі". Усе уніяты амаль пагалоўна былі непісьменнымі, жылі ў жахлівых умовах, горшых, як панская жывёла.

У тым часе магнаты, шляхта, заможнае мяшчанства, за выключэннем лічаных адзінак, сто пяцьдзесят гадоў таму на беларускіх і ўкраінскіх землях лічылі сябе палякамі, належалі да „панскай" каталіцкай веры. Яны вельмі дбалі пра старанную адукацыю сваіх дзяцей, наймалі хатніх настаўнікаў, пасылалі ў гімназіі і універсітэты, вучылі за мяжой. І цалкам не былі зацікаўлены асветай і павышэннем узроўню жыцця і культуры падлеглага ім простага беларускага і ўкраінскага люду, бо, вядома, чым цямнейшы і бяднейшы чалавек, тым лягчэй над ім панаваць. Праўда, дзе-нідзе адукацыяй хлопчыкаў з простага люду займаліся некаторыя уніяцкія святары, але пераважна толькі дзеля таго, каб мець сабе касцельную прыслугу.

Гэты трагічны стан простага беларускага і ўкраінскага люду пачаў паступова змяняцца, калі ён далучыўся да праваслаўных. У праваслаўных да тае ж самае царквы належалі і хадзілі маліцца магнаты і купцы, сяляне і гарадская бядота — усе адчувалі сябе роўнымі перад Богам людзьмі, хаця ўзровень іхняга жыцця быў вельмі розны. Аднак пры цэрквах свяшчэнікі і псаломшчыкі ўсё часцей пачалі весці навучанне дзяцей сваіх незаможных прыхаджан. Гэтая асветная дзейнасць праваслаўнай Царквы стала паўсюднай, калі ў 1859 годзе Свяшчэнны Сінод спецыяльным дакументам заахвоціў праваслаўнае духавенства засноўваць царкоўна-прыхадскія школы і весці ў іх навучанне чытання, пісьма, лічэння, малітваў, начаткам катэхізісу. Спачатку гэтыя школы паўставалі ў большых мясцовасцях, але паступова рух па заснаванню царкоўна-прыхадскіх школ пашыраўся і мацнеў. У 1884 годзе, напрыклад, у Бельскім благачынні дзейнічала 34 школы з 864 вучнямі, у Кляшчэлеўскім — 32 школы і 743 вучні, у Драгічынскім — 22 школы і 343 вучні, у Беластоцкім — 11 школ і 229 вучняў. Разам на Беласточчыне ў 1884 годзе дзейнічала больш за 120 царкоўна-прыхадскіх школ, у якіх вучылася каля 3000 дзяцей, а да іх трэба ж дадаць народныя і гарадскія вучылішчы. Таму справы асветы не выглядалі на нашых землях так дрэнна, як чытаем у розных гістарыках ды кнігах.

Гэтая праца накладвала вялікія абавязкі на Царкву: свяшчэннікаў, дыяканаў, псаломшчыкаў, царкоўны актыў у навучанні дзяцей, забеспячэнні іх дапаможнікамі, памяшканнямі для заняткаў. Па ініцыятыве царкоўных дзеячаў пачалі паўставаць настаўніцкія семінарыі, між іншым, у Пухлах, Свіслачы. Свяшчэнны Сінод, царская сям'я, розныя брацтвы, заможныя людзі ахвяроўвалі на асвету значныя грошы, а сярод сялянства разгарнуўся рух па пабудове школьных памяшканняў. І хаця гэта былі скромныя начаткі народнай асветы, але яны адыгралі вялікую ролю ў жыцці працоўнага люду.

**Мікола Гайдук**

# Улада і грамадства

Два месяцы таму паказалася ў продажы на польскім рынку кніжка беларускіх журналістаў Сяргея Аўсянніка і Алены Стралковай *Władza a społeczeństwo. Białoruś 1991-1998**. Выпусціла яе варшаўская суполка „Presspublica" — выдавец газеты „Rzeczpospolita".




Кніжка невядома чаму мае вокладку ў колерах беларускага нацыянальнага сцяга. на якім змешчаны герб „Пагоня". Змест кніжкі ніякім чынам не апраўдвае выкарыстання ў такой форме беларускай нацыянальнай сімволікі. Больш адпаведным было б змяшчэнне на вокладцы герба і сцяга лукашэнкаўскай Беларусі.

Аўтары кніжкі на пачатку ставяць сабе пытанні, на якія мае адказаць змест кніжкі. Гучаць яны: Што дзеецца на Беларусі? Па якіх прычынах шмат антыдэмакратычных дзеянняў не выклікае вострых рэакцый у беларускім грамадстве? Чаму „незалежнасць", „рынак", „дэмакратыя" ў свядомасці беларускіх грамадзян не сталі сінанімамі свабоды? Як у большасці савецкіх аўтараў, няма пытанняў пра нацыянальны кантэкст падзеяў гэтага перыяду на Беларусі. Менш саветызаваныя і русіфікаваныя суседнія краіны — Літва, Латвія, Украіна, хаця малымі крокамі, але далучаюцца да еўрапейскай супольнасці народаў. Беларускія інтэлектуалы разважаюць тым часам пра дэмакратыю, як пра асноўную грамадскую патрэбу. Яшчэ не было такога ў гісторыі, каб чужая па культуры і нацыянальнасці ўлада клапацілася пра дэмакратычныя метады кіравання зняволеным людам. Дэмакратыя — гэта неабходнасць пастаяннай гатоўнасці ўлады даваць адказы на пытанні з боку ўсялякіх грамадскіх груп. Ад якасці адказаў у дэмакратычнай сістэме залежны лёс палітыкаў. А ці можа адказаць пануючая на Беларусі група на такія пытанні, напрыклад: чаму ўлада карыстаецца выключна замежнай мовай; дзе беларускія школы; чаму сімвалы катаў беларускага люду віднеюць на дзяржаўных установах; дзе беларускі народ; чаму грамадства, якое жыве на Беларусі не хоча нічога ведаць са свае мінуўшчыны; чаму так пагарджае сабою, што нават не хоча свабоды?

Дэмакратыя гэта таксама патрэба свядомых сваіх мэтаў народаў. Не патрабуе яе грамадства, якім нехта заўсёды кіраваў і кіруе, дзе няма нават сімвалічных праяваў самакіравання.

Паводле Аўсянніка і Стралковай, перабудова памяняла палітычную карту Еўропы (с. 7). Здаецца, аднак, што мела яна іншыя мэты і была хутчэй няўдалай спробай ратавання камунізму і старой карты Еўропы. У такім толькі сэнсе можна пагадзіцца з тэзісам, што на Беларусі ўсё яшчэ адбываецца перабудова.

Аўтары кніжкі, здаецца слушна, бачаць палітычныя падзеі ў Беларусі пасля 1991 года толькі як змену формы кіравання краінай людзьмі з камуністычнай наменклатуры. Аграмадная дзяржаўная маёмасць у традыцыйнай сістэме ўласнасці не дазваляла партыйным элітам на сэнсоўнае яе выкарыстанне. Галоўным тормазам была ідэалогія і камуністычнае заканадаўства. Таму ўвесь сэнс пераўтварэнняў, якія пачаліся разам з перабудовай, гэта падзел вялікай часткі сацыялістычнай маёмасці паміж людзьмі наменклатуры. Усё, аднак, адбылося без фармальнай змены формы ўласнасці. У стратэгічных пунктах гаспадарчай сістэмы ўзніклі толькі наменклатурныя суполкі, якія перайманлі вялікую частку выпрацаваных сродкаў. Афіцыйна называлася гэта „плюралізмам у галіне ўласнасці", ці „кантраляванай рыначай гаспадаркай", у сапраўднасці на такіх прынцыпах дзейнічаюць, напрыклад, у Італіі, мафійныя прадпрыемствы.

Аўсяннік і Стралкова сваю працу пабудавалі на афіцыйных выказваннях вядомых асоб палітычнага жыцця ў Беларусі, а таксама на прэсавых каментарыях да паасобных падзеяў. Выказванні палітыкаў, вынесеныя да ведама ўсяго грамадства, аўтары прынялі як адлюстраванне іх сапраўдных поглядаў або мэтаў да якіх імкнуліся. Некрытычны падыход з боку аўтараў да ўсяго, што публічна было сказана не дазваляе чытачу разабрацца ў механізмах, якія кіравалі падзеямі ў Беларусі. Невядома нават адкуль узялася „вельмі дзіўная незалежнасць", як акрэсліваюць стан беларускай дзяржаўнасці Аўсяннік і Стралкова, пасля 25 жніўня 1991 года. Беларускі народны фронт у іх аглядзе падзеяў у Беларусі з'яўляецца малаважным фактарам. Няма таксама ў кніжцы адказу на пытанне: якім чынам Вярхоўны Савет, у якім 85 працэнтаў дэпутатаў складалі камуністы, аб'явіў незалежнасць і прыняў „нацыяналістычную" сімволіку?

Сярод шматлікіх доказаў кансерватызму камуністаў, адсутнічае ў кніжцы факт, што лідэр Камуністычнай партыі Беларусі Анатолій Малафееў 25 жніўня заклікаў сваіх таварышаў галасаваць за незалежнасць Беларусі. За незалежнасць Беларусі ў той час, як і Зянон Пазьняк, змагаўся таксама камуністычны дэпутат Аляксандр Лукашэнка. У адрозненні ад Пазьняка аднак, Малафееў і Лукашэнка баяліся рэпрэсій з боку Барыса Ельцына за падтрымку путчу Янаева. Беларускія бальшавікі мерылі свет сваімі меркамі і баяліся, што ўзорам савецкай традыцыі пачнуцца расстрэлы, зняволенні і іншыя гэтаму падобныя дзеянні ўлад. Галасавалі тады за незалежнасць у надзеі, што ў суверэннай Беларусі не трэба будзе несці ніякай адказнасці за бунт супраць прэзідэнта Савецкага Саюза. Неўзабаве большасць наменклатуршчыкаў выступіла з камуністычнай партыі і пачала кіраваць краінай па прынцыпе феадальнай эліты. Змаганне паміж двума кланамі Вячаслава Кебіча і Аляксандра Лукашэнкі прывяло да перамогі гэтага апошняга і адкрыла дарогу да кансалідацыі постсавецкіх элітаў у Беларусі. Невялікая частка былой намеклатуры — Шарэцкі, Багданкевіч, Грыб, Новікаў, Фядута — прабавала мець свае прыватныя меркаванні на тэму ўнутранай палітыкі свайго шэфа. Забыліся пра логіку сістэмы, якую самі, між іншым, стварылі. Цяпер — паводле аўтараў кніжкі — змагаюцца яны з дыктатурай.

„Сучасная беларуская ўлада, — пішуць Аўсяннік і Стралкова, — стварыла ўражанне, што народ ёсць крыніцай улады" (с. 194). Народ — савецкі — меў такое ўражанне ад часу Сталіна.

**Яўген Мірановіч**

* S. Owsiannik, J. Striełkowa, *Władza a społeczeństwo. Białoruś 1991-1998*, Warszawa 1998, ss. 226.

# У мяне песні простыя

Нядаўна нашу рэдакцыю наведаў Аляксандр Шыдлоўскі з Гродна, кампазітар, аўтар некалькі соцень песень вядомых не толькі на Беларусі, але і на Беласточчыне. Гэта яму належыць папулярная і ў нас песня „Колькі ў небе зор". Першы раз наведаў ён „Ніву" ў 1988 годзе, калі быў ганаровым старшынёю журы конкурсу „Беларуская песня '88". Сёлета пабываў у Беластоку ў дачкі, якая тут замужам і працуе ў музычнай школе.



Усё жыццё Аляксандра Шыдлоўскага звязанае з музычнай творчасцю, а развівалася яно спачатку пад уплывам Рыгора Шырмы — выдатнага музыколага, кампазітара, фальклярыста і дырыжора. Упершыню сутыкнуўся ён з Шырмам у Віленскай беларускай гімназіі, дзе той выкладаў музыку і спевы. Потым, калі ў 1940 годзе Рыгор Шырма стварыў у Беластоку беларускую харавую капэлу, запрасіў сюды і Аляксандра Шыдлоўскага. Хор даваў канцэрты не толькі ў горадзе, але і па ўсёй Беласточчыне, між іншым, выступаў у Гайнаўцы, Бельску, Белавежы. У маі 1941 года харысты паехалі на гастролі ў Маскву і іншыя расійскія гарады. Выбух нямецка-савецкай вайны застаў спевакоў у Арле. Ансамбль у перыяд вайны вандраваў з канцэртамі па гарадах за лініяй фронту, аб'ехаў сярэднеазіяцкія рэспублікі і на радзіму вярнуўся толькі ў 1944 годзе — спачатку ў вызвалены Гомель, затым у Мінск і Гродна. І калі Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР (бо так пазней стаў называцца ансамбль Рыгора Шырмы) вярнуўся ў сталічны Мінск, Аляксандр Шыдлоўскі застаўся ў Гродне. Тут стаў працаваць выкладчыкам у школе. Аднак песню не пакінуў: арганізаваў самадзейнасць у горадзе, вёў, між іншым, калектывы вучняў, настаўнікаў, жаночы хор на швейнай фабрыцы.

У 1960 годзе Аляксандр Шыдлоўскі стаў дырэктарам Абласнога дома народнай творчасці ў Гродне, а пасля пераходу на пенсію ў 1971 годзе ўзначаліў фальклорны аддзел гэтай установы, якім загадваў 24 гады.

— Пакінуў я працу ў Доме народнай творчасці ў 1995 годзе, калі ўскладнілася гаспадарчая сітуацыя і з'явілася беспрацоўе, — кажа кампазітар. — Вельмі цяжка таксама стала з культурай. Работнікі культурных устаноў мала зарабляюць. Самадзейныя калектывы не карыстаюцца такой падтрымкай як калісь. Кіраўнікі заводаў неахвотна адпускаюць самадзейнікаў на рэпетыцыі і гастролі.

Аднак Аляксандр Шыдлоўскі не пакінуў творчай працы. Далей працягвае кампанаваць. У яго назбіралася ўжо некалькі дзесяткаў новых твораў, з якіх можна было б скласці чарговы, трэці, зборнік. Кіраўнікі калектываў просяць у яго новыя песні. Часта новыя кампазіцыі трапляюць у рэпертуар гродзенскага ансамбля „Гараднiца".

— Пішу, — кажа кампазітар, — бо песня можа адрадзіць культуру. У адраджэнні вялікую ролю адыгрывае традыцыйная, меладычная, лірычная песня. Яна закранае ўсе стрункі чалавечай душы. Калісьці Генадзь Цітовіч заўважыў, што я пішу песні як бы народныя. Здаралася, што фалькларысты запісвалі па вёсках мае творы як фальклорныя. Я вельмі цешуся, што мае песні спяваюцца і што іх лічаць народнымі. Напрыклад, у Ігара Лучанка мелодыя надта граматная, а ў мяне песні простыя, меладычныя, каб запамяталіся.

Простыя мелодыі прынеслі кампазітару папулярнасць, асабліва на Гродзеншчыне, якую ён апяяў у дзесятках песень. За гэта былі яму прысвоены званні ганаровага грамадзяніна Гродна і Смаргоні (у падсмаргонскай вёсцы Мінкі нарадзіўся ён у 1911 годзе). Аляксандр Шыдлоўскі прыемна ўспамінае мерапрыемствы ў гонар 85 гадавіны з дня яго нараджэння, якое два гады таму арганізавалі яму гродзенцы. Памяткай ад гэтага бенефісу засталася відэакасета, запісаная на Гродзенскай тэлестудыі.

Апрача паэтычна-музычнай творчасці Аляксандр Шыдлоўскі піша ўспаміны. У маладосці ўдзельнічаў ён у заходнебеларускім рэвалюцыйным руху, належаў да Грамады, сядзеў у польскіх турмах, сустракаўся з многімі палітычнымі і грамадскімі беларускімі дзеячамі даваеннай Польшчы.

Наш госць прынёс з сабою некалькі новых песень, складзеных ім у 1997-1998 гадах. На суд нашых самадзейнікаў прапануем адну з іх — „Край наш чароўны".

**Віталь Луба**

*Фота Міры Лукшы*

## Край наш чароўны

*Словы і музыка А. Шыдлоўскага*




2) Бачу рабіны, вербы над рэчкай,
Родныя кветкі ў полі цвітуць:
Тут васілёчкі, тут і рамонкі
Радасць і смутак у сэрца кладуць.

3) Ў небе пачую крык жураўліны —
Сэрца заб'ецца моцна ў грудзях;
Ў полі пачую родную песню —
Выступяць слёзы самі ў вачах.

4) Матчына мова, матчыны песні
Наша багацце, наша быццё.
Без роднай мовы, без роднай песні
Нібы без сонца наша жыццё.

5) Хто цябе страціў, край наш чароўны,
Сэрцам заўсёды будзе ён тут.
Бо ты заўсёды любы бязмерна,
Ты самы мілы, родны наш кут.

# Веру: мае дзеці...



[1 ☞ працяг]

да ксяндза ў Аўгустове па нейкія паперкі, бо маладыя хацелі ўзяць шлюб у царкве. Ксёндз яе выслухаў, а пасля аблаяў: ці табе, дзіця, сваіх хлопцаў мала, мусіш за кацапа выходзіць?..

Такі падыход да справы і абраза яе каханага хлопца так узлавалі дзяўчыну, што яна вырашыла перайсці на праваслаўе. Сам сённяшні мітрапаліт Сава дапамагаў. І жывуць яны дружна, дай Божа кожнаму...

А цяпер зноў і зяць — католік. Калі хрысцілі ў праваслаўным абрадзе яго дачушку Юлію, зяцю так спадабалася наша вера, што думае перайсці на праваслаўе. Не ваяўнічая гэта вера, сардэчная. Ніхто нікога да нічога не прымушае. Бог сам усё бачыць.

У Аўгустове беларусы паўміралі, уздыхае Пятро Германюк. Мае ён пры гэтым на ўвазе тых, хто сам сябе лічыць беларусам. Але вось дзеці, напрыклад, памершага Яна Войцюка, ён столярам быў, маюць свядомасць беларускага паходжання. Ён сам быў з-пад Сямятыч. Мова, аднак, прападае і ў праваслаўных. Але ў іх прынамсі застаецца тое пачуццё беларускасці.

На вёсцы крыху інакш. Калісьці, калі я працаваў яшчэ ў Дуброве, працягвае мой субяседнік, у Сынкоўцах праводзілі камасацыю зямлі. Людзі былі незадаволеныя, страйкавалі, перакулілі машыну ўрадніка, што прыехаў з Дубровы. Дайшло да таго, што туды баяліся ехаць. Тады вырашыў паехаць я. Была гэта беларуская вёска, а да таго ў большасці тут жылі праваслаўныя. Мне туды ехаць не было страшна. Наадварот, я баяўся, каб сялян не пакрыўдзілі, бо ўжо пачалі іх мучыць штрафам. І што вы думаеце? Мяне прынялі там як сваяка і салідна пачаставалі. А я, вядома, справу там залагодзіў, штраф адмянілі.

У Аўгустове няма царквы. Праваслаўная капліца месціцца ў будынку былой слёсарскай майстэрні на панадворку пошты. Бацюшка на багаслужбу даязджае з Беластока. Апошнім браў шлюб у царкве мой сын Ігар, а ўжо ж іх дзеці вялікія... — уздыхае ізноў спадар Пятро.

Пасля смерці бацькі Пятро Германюк узначаліў гурток БГКТ у Аўгустове. У нас тут, кажа ён, беларуская дзейнасць вялася дзесь да 82—83 гадоў. Цяпер сустракаемся больш на сваіх участках. Усе мы, тыя, што засталіся, лічым сябе сваякамі.

Хаця дзейнасці цяпер не вядзем, прыемна пабыць сярод суродзічаў, падзяліцца радасцямі і клопатамі ды ведаць, што ён табе не здрадзіць. А калі трэба, дык і памагчы камусьці, даць яму нейкую параду.

Сёння Пятро Германюк ужо пенсіянер. Па прафесіі ён юрыст, дык ахвотна выкарыстоўвае свае веды і вопыт у грамадскай дзейнасці. Калісь БДА даручыла мне, успамінае ён, праверыць, як у пракуратуры ідзе расследаванне справы, калі згарэла царква ў Нарве, а пасля калі быў узлом у царкву ў Крыначцы, яна там знаходзіцца на тэрыторыі вайсковай часці.

Праваслаўная вера маіх дзядоў і прадзедаў гэта частка нашай культуры і я яе трактую як неадлучную частку майго жыцця. Прынамсі ў маёй сям'і, нягледзячы на неспрыяльныя акалічнасці, з праваслаўя не адышоў ніводзін, усміхаецца сваім думкам мой размоўца. Хачу, каб частка маёй культуры жыла ў дзецях. Веру: мае дзеці магаметанамі не будуць.

Але перш за ўсё я — беларус. Калі памёр мой дваюрадны брат, я і яго жонцы параіў даць беларускі надпіс (як у маіх бацькоў у Вярстоку) на яго помніку на могілках у Гайнаўцы: „Ніколі і нідзе не адракуся, што беларусам жыў і буду жыць". І так запрапанаваў і яна згадзілася са мною, што словы Віктара Шведа будуць тут вельмі дарэчы.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




„Лясныя Скамарохі" з Кляшчэль. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Птушкі з дрэва і лазы

Народныя мастакі захапляюць нас вырабамі свайго ўмельства. Падказваюць нам, што прадметы з лазы або драўляныя птушкі могуць служыць арыгінальнай аздобай хаты ў канцы XX стагоддзя.

Вёска Козлікі распалажана над ракой Нарвай. У гэтай вёсцы жыве сужонства народных мастакоў — Вольга і Аляксей Анішчукі. Гэтыя мілыя людзі расказалі мне, як яны сталі вырабляць прадметы з дрэва і лазы.

Аднойчы спадар Анішчук паехаў у Бельск-Падляшскі, дзе сустрэў чалавека, які паказаў яму талерку з лазы. Чалавек гэты ведаў, што лаза расце над ракой Нарвай і паабяцаў спадару Анішчуку прыехаць у Козлікі па матэрыял для сваіх вырабаў. Прадмет з лазы выконваецца ўвесь дзень — марудная гэта праца, патрабуе многа цярплівасці. Думка пра тое, што зрабіць з лазы ўзнікае на аснове навакольнай прыроды, нейкага малюнка або проста з галавы.

А. Анішчук займаецца сваім мастацтвам ад 1964 г. Ад гэтага часу прымаў ён удзел у многіх конкурсах народных умельцаў, у якіх заваяваў шмат узнагарод. Яго жонка, Вольга, таксама ўмее выплятаць з лазы ўсякія прадметы, але спецыялізуецца ў драўляных птушках. Яе творчасць пачалася ад школьнай экскурсіі ў Фрамборк, дзе яна наведала дзіцячы дом — працаваў там чалавек, які патрапіў вырабляць з кары дрэў прыгожыя птушкі, вавёркі ды іншыя звяркі. Вольга Анішчук рашыла сама навучыцца гэтаму ўмельству. Свае птушкі В. Анішчук прадае.

Добра, што жывуць у нас людзі, якім залежыць, каб народнае мастацтва не загінула.

**Аня САДОЎСКАЯ**

## Верасень

Месяц Верасень багаты — у яго залатыя шаты. Ходзіць ён па зямлі дорыць ёй свае багацці.

Зайшоў Верасень у сады цяністыя, атрос ігрушы залацістыя. Асыпаў з яблынь духмяныя антонаўкі, чырвоныя крамяныя малінаўкі, захінуў туманамі слівы сінія...

Выйшаў у поле, наставіў мяхоў бульбы, на лузе склаў у копы траву і падаўся ў лес.

Ідзе Верасень лесам, прыбірае дрэвы ў дарагія ўборы: бярозінку — у золата, асіну — у чырвань; на дубы навесіў медны ўбор. Не забыўся і пра каліну ды рабіну, прыхарошыў іх пацеркамі чырвонымі. Пад пянёчкі ды пад кусточкі пасадзіў грыбочкі... Азірнуўся Верасень, паглядзеў навокал: гарыць-палае асенні лес! Вось толькі ўнізе трава сухая і пажоўклая. Няма красак, адцвілі за лета.

Страсянуў Верасень з дрэў буйную расу — і дзіва! Упалі да камлёў зялёных сосен ды залатых бяроз драбнюткія званочкі! Зацвілі верасы!

Загулі, зазванілі званочкі! Клічуць дзяцей у школу.

Багаты месяц Верасень, багаты! Ён падараваў зямлі пышныя шаты. Насыпаў поўныя засекі збожжа. Адзеў у золата лясы і расквеціў верасы.

Таму і завуць яго Верасень.

**Клаўдзія КАЛІНА**

## Завітала восень

Завітала восень. Вось і верасень.
Жаўцізна кранула голле гаю.
Прыгажосць такая,
нібы ў дзіўным сне...
Важка яблыкі з галін звісаюць.
Чырванее ў садзе ля платоў
Адзінокая пахілая каліна.
Пралівае, пэўна, сто патоў
Пад цяжкімі гронкамі рабіна.
Спяць яшчэ дажджлівыя вятры
За далёкімі ад нас лясамі.
Сонейка, ад хмарак твар пратры,
Пабывай вясёлае, між намі...
Верасень бярозавым лісткам
На сцяжынках часта след
азначыць,
Хутка ў вырай паляцяць гуртом
Журавы з працягла-сумным
плачам.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ**

## Міфы старой Беларусі

### 35. Хут

„Хут, у каго ў доме жыве, вельмі таму спрыяцель у гаспадарцы, багацце ў дом прыносіць, снапы з чужых палёў у гумно, золата з няведамых скарбаў. Вечарам можна часам бачыць на небе, як ляціць вогненны, чырвоны — золата нясе, як цёмна, чорна — збожжа, снапы. Але яго трэба шанаваць, смачна карміць, яго любімая страва — ячня. Як спячэ гаспадыня ячню, нясе на гарышча, ставіць там і кліча:

— Хут, Хут, ідзі сюды, дам ячаньку, абарачаньку.

Ён рады прыходзіць і есць. На гарышчы Хут жыве, а лятае дзе хоча, ніхто не ведае дзе. Можа перакінуцца ў што хочаш — у корч, у старое калясо, палена. Кажуць, быў такі выпадак. Парабак падслухаў, як гаспадыня клікала Хутка есці ячню, ды з'еў тую ячню сам. Хут вельмі разгневаўся, думаў, што гаспадыня кпіны састроіла, і спаліў увесь двор, і гумно, і дом. Гасілі людзі, гасілі і не далі рады. Стаяць, глядзяць на галавешкі. А тут калясо старое ляжыць (а гэта быў Хут, жыць яму не было ўжо дзе). Дык сусед кажа:

— А што яно будзе тут гарэць, — дый перакінуў у свой двор.

Дык адкуль толькі што ўзялося ў яго! Усё яму пайшло і ўраджай, і ўсялякае дабро."

*(Запісана ў 1975 г. у вёсцы Навасёлкі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці ад Марыі Чарняўскай, нар. у 1878 г.)*

## Здымкі з урачыстага адкрыцця





Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Варголы

Каля сажалкі гарыць вогнішча, бурліць вада ў чыгуне, а дзеўка Дрыпа паплыла ў чаўне рыбу лавіць. Паны ў чаканні вячэры пахаджваюць па беразе ды ад няма чаго рабіць згадваюць мінуўшчыну.

Першы кажа пан Заблоцкі, закаціўшы вочы:

— Што ні кажы, пан Кубліцкі, а жыў я добра — што клёцка ў масле качаўся. Не буду хваліцца, але ў маім маёнтку ўсё было лепшае, чым у іншых. А коні ў мяне былі такія, што сам князь зайздросціў. Памятаю, быў у мяне жарабец — агонь, а не жарабец! Такі быў аграмадны, што ў стайню, бывала, не мог праціснуцца. Дык ён тады я-а-ак разгоніцца і ў дзірку пад дзвярыма — шусь!

— Дык, можа, гэта сабака быў, а не жарабец? — сумняваецца пан Кубліцкі.

— Ну, а калі і сабака, дык што з таго?! — сярдуе пан Заблоцкі. — Мае сабакі былі самыя брахлівыя ў акрузе, а свінні мае былі самыя тлустыя, і вада ў маёй студні была макрэйшая, чымсьці ў каго з суседзяў. А якая брычка ў мяне была — з чыстага золата, дарма што праіржавела крышачку. Бывала...

— Бывала, што і карова кукавала, а цяпер і зязюля не каркае, — уздыхае пан Кубліцкі. — Паслухай, пане Заблоцкі, што я распавяду. Я, вядома, не меў стайні ды псярні, затое выпісаў сабе з Парыжа адмысловага кухара. Той кухар гатаваў мне кожнага дня новую страву. Ужо што ён толькі не вымысляў, як толькі не круціўся, каб дагадзіць мне і маім гасцям!..

— Хвалілася кабыла, што на грэблі гаршкі пабіла, — не вельмі ветліва перапыняе суразмоўцу пан Заблоцкі. — Чулі мы пра панова баляванне. Гэта, выпадкам, не пан Кубліцкі князя частаваў аўсом, а князевага каня — смажанымі качкамі?

Пан Кубліцкі адказвае пакрыўджаным голасам:

— Сорамна пану гэтак казаць. Хіба пан не ласаваўся ў мяне мядзвежаю шынкаю, калдунамі з зайчацінай, пірагамі з дзічынаю? Яшчэ мой кухар гатаваў вужыную яешню, верашчаку з мышыных хвастоў, цісную чарвяковае масла, засмажваў цэлага каня ды саліў на зіму апельсіны. Бывала, возьме моху, чартапалоху ды ўсялякага іншага патроху, змяшае з камарынымі лапкамі, палье зверху жабурыннем — і атрымоўваецца ўлюбёная страва пана Заблоцкага. Васпан так таптаў гэную салату, што за вушы не нельга было адцягнуць.

— Не кажыце пра тое, — просіць пан Заблоцкі, — бо і цяпер сліна набягае, як згадаю. Хутчэй бы ўжо дзеўка Дрыпа рыбы налавіла, бо нешта есці захацелася...

Ажно вунь і яна, Дрыпа, лёгкая на ўспамін.

— Давай есці, — кідаюцца да яе паны.

— Сёння, панове, юшкі не будзе, — нявесела кажа дзеўка Дрыпа. — Дый малака таксама не будзе — карова некуды ў лес забрыла. Няйначай, і ёй нейкая фантазія ў галаву прыйшла.

— А чым жа мы вячэраць будзем? — пытаюцца разгубленыя паны.

— А на вячэру ў нас сёння, панове, адно варголы.

— Варголы? Хм... Ніколі не чуў пра такую страву, — чухае патыліцу пан Кубліцкі. — Мой кухар такога не гатаваў. Дык дзе ж тыя варголы?

— А вунь там, у чыгуне, — махнула рукою дзеўка.

Паны падбягаюць да чыгуна, штурхаюцца, зазіраюць пад накрыўку — а там па-ранейшаму булькае чыстая вада.

— А дзе ж рыба? — пытаюцца яны ў дзеўкі Дрыпы.

— Няма рыбы. Вада сплыла ў рэчку, а рыба разам з ёю. Затое паны могуць ізноў у хату вяртацца ды гуляць у карты.

— Гэта з пустым жыватом — і ў карты? Бач чаго ўздумала! — гневаецца пан Заблоцкі. — Ты ж казала нам пра нейкія варголы. Цягні іх сюды.

— Дык вось жа, у чыгуне, — спакойна кажа дзеўка Дрыпа. — Паўзірайцеся. Адзін вар голы, больш нічога...

Пятро Васючэнка

# Чакаюць узнагароды

**Увага дзеці!**

У рэдакцыі „Нівы" знаходзяцца яшчэ ўзнагароды за правільныя адказы на крыжаванкі і конкурсы, выйграныя вамі ў 1997/98 навучальным годзе.

Ніжэй друкуем прозвішчы лаўрэатаў, якія не ўзялі сваіх узнагарод.

1. **Бажэна Ляўчук**, ПШ у Дубічах-Царкоўных, узнагароды за крыжаванкі н-р 13 і 8.
2. **Анна Каліноўская**, ПШ у Махнатым, узнагарода за крыжаванку н-р 20.
3. **Паўліна Кавальчук і Ёля Дэнісюк**, ПШ у Крывой, узнагарода за крыжаванку н-р 20.
4. **Марцін Мялешка**, ПШ у Новым Корніне, узнагарода за крыжаванку н-р 17.
5. **Нэля Себятынюк**, вёска Казлы, узнагарода за крыжаванку н-р 49.
6. **Марта Кучынская**, ПШ у Храбалах, узнагарода за крыжаванку н-р 11.
7. **Давід Галоўскі**, ПШ у Орлі, узнагарода за крыжаванку н-р 8.
8. **Наталля Казлоўская і Бажэна Кананюк**, ПШ у Новым Корніне, узнагарода за крыжаванку н-р 18.
9. **Бася Андраюк**, ПШ у Дубічах-Царкоўных, узнагарода за крыжаванку н-р 18.
10. **Павел Ільяшук**, ПШ у Кленіках, узнагарода за крыжаванку н-р 26.
11. **Аня Камар**, ПШ у Кленіках, узнагарода за крыжаванку н-р 26.
12. **Дарота Барташэвіч**, ПШ у Махнатым, узнагарода за крыжаванку н-р 23.

# Польска-беларуская крыжаванка № 37

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 33:** Сом, папера, гара, Кракаў, код, кракадзіл, век, загад, газа, наплыў. Круг, рака, паказ, каза, гад, паўзун, паклёп, радавы, арак.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Rzeka | Samosiejka / Akapit | | Cerkiew | | Pestka | | Dar / Sęk | | Narewka / Motowidło | |
| | | | | | | Osada / Szkoda | | | | | |
| | Kram | Szlak / Lipa | | | | | | | | | |
| | Zapach | | | | | | Kasza | | | | |
| Pisk / Rezerwat | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | |
| Chód | | | | | | | | Osa | | | |

# гімнастычнай залы ў Кляшчэлях





Фота Ганны Кандрацюк



Талон „Зоркі" № 37
13.09.1998

# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

**„Шаноўныя чытачы! Сціплых грашовых сродкаў нашага Таварыства беларускай культуры стае толькі на аплату друкарскіх выдаткаў. Вашыя ахвяраванні, грошы з падпіскі, а таксама і грошы з продажу газеты ідуць на пакрыццё выдаткаў за макетаванне і рассылку «Руні». (Кошт рассылкі перыёдыкаў у Літве месяц таму, дарэчы, падвысіўся і складае паўдолара за адсылку аднаго нумара). Сябры рэдакцыі працуюць бясплатна, нашыя аўтары ганарараў не атрымліваюць. А таму вялікая просьба да ўсіх, хто атрымлівае газету, а не падпісаўся — падпішэцеся!.."**



*Алег Мінкін, Лявон Баршчэўскі і Сямён Шарэцкі за гарбатай на ганку сядзібы Таварыства беларускай культуры ў Вільні (вул. Жыгіманту, 12).* Фота Міраславы ЛУКШЫ

Так звяртаецца рэдакцыя месячніка „Рунь" да сваіх чытачоў у Літве і не толькі. Прапанавалася на III З'ездзе беларусаў Балтыі, каб гэты часопіс стаў агорай усіх беларусаў балтыйскага рэгіёна.

— „Рунь" — наша сталічная віленская газета, — расказвае галоўны рэдактар Алег Мінкін. — Стараемся, каб была разнастайная, цікавая, пра нашае жыццё тут. Праўда, увесь час бракуе нам матэрыялаў пра жывое жыццё ў Літве, Беларусі і ў балтыйскім рэгіёне, але ў нас дужа багата матэрыялу мемуарнага плану. Што ні віленчук, то легенда, сам горад мае незвычайную аўру, ён **памятае**. Вось нядаўна, ідучы на працу, памёр наш сакратар, Леванід Кароль (нар. у 1922 г.) Гэты чалавек — крыніца памяці. Калі я паглядзеў дакументы, якія захоўваюцца ў ягонай сям'і — гэта ж уся эпоха!

Бацька Л. Караля Сымон доўгі час працаваў выкладчыкам музыкі ў Віленскай беларускай гімназіі, якую закончыў і ягоны сын. Леванід усё жыццё звязаны быў з Вільняй. У Вільні закончыў універсітэт, хімічны факультэт, працаваў у Літоўскім інстытуце электраграфіі намеснікам кіраўніка аддзела. Леванід Кароль быў адным з першых, хто ствараў „Сябрыну", таварыства Беларускай культуры, хор. Дапамагаў у выбары рэпертуару, меў шмат літаратуры, на працягу больш дзесяці гадоў быў салістам хору. Часта прыходзіў у беларускую школу Вільні, сустракаўся з вучнямі, перадаваў веды.

— Леванід Кароль карыстаўся аўтарытэтам не толькі сярод беларусаў Літвы, але і ва ўсім літоўскім грамадстве, — сцвярджае Леакадзія Мілаш. — Актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. Быў адказным сакратаром спачатку ў газетах „Эхо Литвы" і „Кур'ер Віленскі", дзе на працягу некалькіх гадоў выходзілі на беларускай мове старонкі „Беларус Віленшчыны", а з 1997 г. у газеце „Рунь". З-пад яго пяра выходзілі цікавыя гістарычныя артыкулы. Ведаў беларускую Вільню як мала хто.

Газета „Рунь" на васьмі старонках у месяц, прынцыпова друкаваная „тарашкевіцай" — мае выгляд прафесійнай і змястоўнай газеты, акуратна і густоўна аформленай графічна (мастак Алег Аблажэй). Вось нумар 14, з перадавіцай пра арганізаваны з'езд беларусаў. Міраслава Русак у калонцы „Люстра дзён" распавядае пра дзесяцігадовую дзейнасць віленскага клуба „Сябрына", ёсць таксама інтэрв'ю з Галінай Сівалавай, дырэктаркай Віленскай беларускай школы імя. Ф. Скарыны (м.інш. Г. Сівалава ёсць у апазіцыі да выдаўцоў „Руні", але газета стараецца памяркоўна пісаць пра ўсіх, прадстаўляць іх рацыі). На пытанне: „Як ставіцца да вас беларуская дыяспара?" Галіна Сівалава адказвае: „Беларуская дыяспара ніколі не была аднароднай і згуртаванай. Непарыўная барацьба за лідэрства знутры і пошук вонкавых ворагаў прывялі да раз'яднанасці. Кожны шукае свае сродкі дзеля выжывання. Некаторыя нават пэратварылі сваю прыналежнасць да беларускай нацыі ў прафесію. (...)" Пытанне: „У чым, на Ваш погляд, розніца ў дачыненні Літвы і Беларусі да сваіх дыяспараў за мяжою?" — „Якімі б звадкамі не займаліся вакол кадравых перастановак у літоўскім парламенце і народнай адукацыі, у душы літоўцы разумеюць, навошта ім патрэбныя школы за мяжою. Беларусь жа, як мне здаецца, пакуль не да канца ўсведамляе, навошта ёй трэба падтрымліваць беларускія школы за мяжою". — „Што, на Вашу думку, магло б паслугаваць у якасці фактара для аб'яднання дыяспары?" — „Некаторы сілы ў замежнай беларускай дыяспары перакананы, што аб'ядноўвацца неабходна супраць існуючага ў Беларусі дзяржаўнага ладу. Іншыя, у тым ліку і я, лічаць, што ў першую чаргу трэба аб'ядноўвацца дзеля вырашэння нашых праблем у краіне, дзе мы зараз жывём. Будучы нацыянальнай меншасцю ў Літве, мы ўжо адчулі пільную ўвагу з боку літоўскіх уладаў. Раней штовечара была 10-хвілінная радыёперадача на беларускай мове. Яе закрылі, матывуючы тым, што яна надта дорага абыходзіцца. Беларускае тэлебачанне раней мела 30 хвілінаў, цяпер гэты час скарочаны да 20. І ніхто з нас не абураецца, таму што мы раз'яднаныя. Я глыбока перакананая: каб застацца на парозе XXI ст. сапраўды беларускай нацыяй, усім беларусам трэба знайсці ў сябе сілы паважаць сваіх суайчыннікаў хоць бы праз тое, што яны ад нараджэння лічаць сябе беларусамі. І не трэба імкнуцца даказваць адзін аднаму, хто мае большае права называцца беларусам. Нас не так ужо і шмат, каб не быць разам".

У рубрыцы „Успаміны" ўспамін Валянціны Пашко з сям'і пастара царквы евангелістаў Антона Мітрафанавіча Кецкі, які ў час II сусветнай вайны дапамагаў дзіцячым дамам выжыць ад голаду. 2 лістапада 1945 г. быў ён арыштаваны і адпраўлены на 10 гадоў у лагер без суда і следства. Валя дачакалася ў дзетдоме свайго бацькі пасля смерці Сталіна. Пастар на катарзе пісаў беларускія вершы, жартаўлівыя творамі стараўся падтрымаць дачушку. Пасля вяртання з лагероў Антон Кецка быў зноў абраны пастарам, памёр у 1978 г. у Менску. Былыя дзетдомаўцы ўспамінаюць пастара Кецку і Якава Рэпецкага, які быў выкладчыкам рэлігіі.

Сярод прадстаўленых постацей — Антон Войцік, Янка Купала. Валеры Савянкоў падрыхтаваў абшырны артыкул „Пра эвалюцыю беларускага этнасу на Віленшчыне". Прадстаўляецца прапанова выдання кнігі-альбома Міхася Раманюка „Беларускія народныя крыжы". Пачытаць можна і пра „Дзівосы Беларусі" (сёння — пра Бярэзінскі запаведнік) і пра віленскі кірмаш на Яна. Ёсць таксама месца для дзяцей — падборка добрых вершаў выдатных паэтаў. І рэкламы, між іншым фірмы, у якой, як зазначана, **працуюць беларусы**, значыць, трэба зрабіць сабе добра і сваім даць зарабіць!

**Міра ЛУКША**

# Народны фэст у Бельску



*На сцэне „Рудабельская пацеха".*

У нядзелю, 30 жніўня, у паркавым амфітэатры ў Бельску-Падляшскім адбыўся беларускі народны фэст. Халодныя свінцовыя хмары безупынна прапаўзалі купалам неба, пагражаючы лівнем. На шчасце толькі пад канец трохгадзіннай канцэртнай праграмы імжэў дождж.

Фэст адкрыў на прыгожай беларускай мове бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк. Вітаючы сардэчна масава прыбыўшую гарадскую публіку памянуў ён таксама гасцей — пасла Сейма Рэчы Паспалітай Сяргея Плеву, консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалая Крэчку і віцэ-консула Паўла Латушку, намесніка старшыні Гарадской рады ў Бельску-Падляшскім Яўгена Беразаўца, войта гміны Орля Міхала Іванчука і Яна Сычэўскага — пасла Сейма і адначасова старшыню ГП БГКТ. Ян Сычэўскі ў сваю чаргу сардэчна падзякаваў бурмістру і праўленню Аддзела БГКТ у Бельску-Падляшскім за дапамогу ў правядзенні фэсту.

Валянціна Ласкевіч павяла канцэрт, запрашаючы на сцэну славутую бельскую „Маланку". Затым чаргова выступалі „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, эстрадныя калектывы „Капры" і „Прымакі" з Беластока, жаночы калектыў „Арэшкі" з Арэшкава і хор „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага.

На заканчэнне на сцэну выйшаў мастацкі калектыў „Рудабельская пацеха" з Акцябрска Гомельскай вобласці, які па-майстэрску выкананымі танцамі і спевамі разаграваў азяблую публіку.

Бурмістр Андрэй Сцепанюк сардэчна падзякаваў усім мастацкім калектывам за выступленні а таксама публіцы за масавае прыбыццё на беларускі народны фэст.

На фэсце прадаваліся касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў, свае паэтычныя кніжкі падпісваў Віктар Швед.

**В. Ш.**

*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*

# Падслуханае ля бара

Я ў вёсцы вяду пункт скупкі грыбоў і мне спатрэбіўся калькулятар. Хацеў я купіць яго ў рускіх на Юравецкай, але там яго не мелі. Паехаў я на базар „Мадро", дзе купіць удалося. Па дарозе на аўтавакзал пабачыў я надпіс „Карчма-Бар" і вырашыў зайсці выпіць піва. Маладая, прыгожая, чарнявая маладзіца хутка і ветліва мяне абслужыла.

Выйшаўшы з бара пачуў я размову двух пажылых мужчын. Адзін з іх зайшоў у бар і заказаў 100 грам гарэлкі і маленькую катлету з хлебам. Афіцыянтка адказала, што трэба пачакаць, пакуль яна падагрэе катлету, а пасля падала яе з трыма кавалачкамі хлеба. За ўсё заплаціў ён 9,60 злотага. Выйшаў потым на вуліцу, пакурыў ды так рассмакаваўся, што вярнуўся назад і паўтарыў свой заказ. Афіцыянтка зноў сказала пачакаць, пакуль падагрэе катлету, але ён вырашыў з'есці халодную, бо яму спяшалася. Тады афіцыянтка з тае самае бутэлькі наліла яму 100 грамаў гарэлкі, падала халодную катлету і дзве лусты хлеба і загадала плаціць 9,80 злотага. Здзівіўся чалавек, што за халодную катлету, меншую колькасць хлеба трэба заплаціць на 20 грошаў даражэй.

Я палічыў, што ў той бар за паўгадзіны ўвайшло 23 чалавекі. Хутка можна палічыць, нават без калькулятара, колькі можа афіцыянтка нелегальна зарабіць.

Цікава, ці такімі барамі цікавяцца чыноўнікі гандлёвага нагляду?

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Жыццё і смерць св. Іаана Хрысціцеля



*Хрэсны ход на „Галавасека" ў Шчытах — 1996 г.*

Святы Іаан Хрысціцель быў сынам Захарыі і Елізаветы. Нарадзіўся, калі абое бацькі дасягнулі пажылога ўзросту. Было гэта пры іудзейскім цары Ірадзе Анціпе, адным з нашчадкаў сумна вядомага вынішчэннем немаўлят Ірада Вялікага. Захарыя быў святарам. Аднойчы ў храме з'явіўся яму Анёл Гасподні і сказаў: „Ня бойся, Захарыя, бо пачута малітва твая, і жонка твая Елізавета народзіць табе сына і дасі яму імя Іаан" (Лук., 1, 5-13).

Нараджэнне св. Іаана побач радасці прынесла таксама і смутак. З прычыны няверʼя ў анёльскае прадвесце Захарыя анямеў. Аднак мова яму вярнулася, калі толькі хацеў вымавіць імя для нованароджанага. З гэтага часу стаў ён прарочыць, што сын будзе названы Прарокам Усявышняга і пойдзе ў народ пракладаць шлях Збавіцелю (Лук. 1, 59-80).

Святы Іаан Хрысціцель рана пакінуў сваіх бацькоў, каб у адзіноце ўдасканальвацца духова і замацоўваць сваю веру. Шмат часу правёў ён у пустыні, насіў вопратку з вярблюджай шэрсці, харчаваўся саранчой і мёдам дзікіх пчол. У трыццацігадовым узросце падаўся над раку Іардан і стаў там прапаведаваць. „Пакайцеся, — навучаў, — бо наблізілася Царства Нябеснае" (Матф., 3, 2). Слухаць яго прыходзілі над Іардан натоўпы людзей. Святы Іаан заклікаў змяніць дрэнныя абычаі, асуджаў усялякае зло і несправядлівасць, патрабаваў духовага адраджэння, якога сімвалам было хрышчэнне — акунанне ў рацэ. Многія хрысціліся ў св. Іаана, а ён кожнаму знаходзіў словы суцяшэння або павучэння. Кожнае ягонае слова было сказана з такой рашучасцю, што многія з бояззю пыталі: „Ці гэта не прарок Ілья або сам Збавіцель?". Святы казаў тады: „Я хрышчу вас вадою на пакаянне, але Той, Хто ідзе за мною, мацнейшы за мяне. Я не варты панесці абутак Ягоны. Ён будзе хрысціць вас Духам Святым і агнём" (Матф. 3, 11).

Неўзабаве місія св. Іаана Хрысціцеля была спынена самім Ірадам, які баяўся ўплыву прарока на народ. Іаана спачатку пасадзілі ў цямніцу. Варожа да яго ставілася таксама Ірадыяда, жонка Піліпа — Ірадавага брата. Падчас прыёму з нагоды дня нараджэння Ірада цар так захапіўся танцамі Саламіі — дачкі Ірадыяды, што абяцаў выканаць любую яе просьбу. Ірадыяда падказала дачцэ, каб тая папрасіла галаву св. Іаана Хрысціцеля. Цар жаданне выканаў: пасланы ў турму кат вярнуўся з галавой прарока на падносе. Дачка Ірадыяды перадала гэты паднос сваёй бязлітаснай маці (Марк 6, 14-28).

Такім чынам загінуў апошні старазапаветны прарок, які пракладаў шлях Збавіцелю — Ісусу Хрысту. Вучні пахавалі свайго Настаўніка і падаліся ў Галілею, каб паведаміць аб трагедыі Хрысту. Даведаўшыся пра смерць св. Іаана Хрысціцеля, Ісус Хрыстос моцна засумаваў (Марк 6, 29).

Дзень пакутніцкай смерці св. Іаана Хрысціцеля Праваслаўнай царквой ушаноўваецца 11 верасня, а свята называецца Усячэннем галавы Прарока, Прадцечы і Хрысціцеля Гасподняга Іаана. У гэты дзень абавязвае строгі пост.

Гэтае свята, якое ў народзе называюць „Галавасекам", урачыста адзначаецца ў Шчытах-Дзенцялове. У тамашняй царкве Усячэння галавы св. Іаана Хрысціцеля кожны год, нягледзячы на надвор'е, збіраюцца сотні вернікаў мясцовага і суседніх прыходаў.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

**Якія мы людзі**

# „Мафія"

Як толькі я паставіла свой самаход ля суперсама, да мяне падбег хлапчук гадоў дзевяці—дзесяці.

— Можа памыць вам самаход? — заглянуў ён мне ў вочы.

— Не бачыш, што я еду з мыйні?! — ўзяла мяне злосць, што хлопец быў гатовы мыць толькі што памытую машыну.

— Ну, дык дазвольце, што я хаця шыбкі пратру! — не здаваўся малы.

— Навошта ты будзеш іх цэрці, толькі размажаш! — і я не здаюся.

— Не, проша пані, мы мыем добра, не размазваем , — зусім, як дарослы, сцвердзіў хлапчук, а я ўбачыла ў метрах дзесяці ад нас яшчэ двух хлопцаў, якія ўважліва сачылі, чым скончацца нашыя перагаворы. Мы на падручнікі збіраем, не на цукеркі.

Я выйшла з самахода і накіравалася ў краму. Божа, маняць на кожным кроку! Мо бацьку на гарэлку трэба...

— Проша пані! — узмаліўся хлопец, які зачапіў мяне. — Дык можа мы хоць папільнуем ваш аўтамабіль?!

Я нічога не адказала, але ў краме адразу выняла з кашалька двузалатоўку і палажыла ў кішэнь, каб пасля не шукаць дробных. Падумала сабе, што калі такое дзіця шукае заробку замест таго, каб у гарачы жнівеньскі дзень сядзець над ракою ў Супраслі, або адпачываць у летнім лагеры, дык, значыць, яму сапраўды кепска.

Купіўшы малака і хлеба, я хутка выйшла з крамы. Хто іх ведае, гэтых свавольнікаў, а як возьме каторы ды прапора колы нажом ці шылам...

Дарма я турбавалася. Самаход быў цэлы і стаяў там, дзе я яго паставіла, а дзяцей і следу не было.

Ужо сядаючы ў машыну, я ў воддалі ўбачыла рускую машыну з прычэпам, загружаным нейкім таварам, а каля машыны — маіх хлапчукоў, якія мітусіліся, горача дыскутавалі. Мо наконт цаны за пільнаванне тае машыны. І раптам той хлопец, што гаварыў са мною, заўважыў мяне. Ён сігануў у мой бок, як ракета, і ўмомант быў каля майго самахода.

— Я пільнаваў вашу машыну, — змяніў ён, не могучы выпусціць з рук эвентуальнага заробку.

— Ну, раскажы мне, як ты яе пільнаваў? — загадала я.

— Ну, так, ведаеце, вы не думайце, што я быў далёка. Я ўвесь час на яе глядзеў, — на хаду прыдумаў ён адказ.

— Ага, ну, калі глядзеў, то на табе! — і я выняла з кішэні падрыхтаваную загадзя манету, прытвараючыся, што даю яе за выкананую працу.

Хлопчык нават не падзякаваў. Схапіў манету як сваю і пабег пільнаваць той рускі самаход. Зарабляць трэба!

* * *

Настрой у мяне сапсаваўся. А хай яго халера з гэным капіталізмам! Мела быць так добра, а тут дзеці на канікулах працаваць мусяць. Ці ж тут, ля крамы, для іх месца...

З другога боку, аднак жа, калі чалавек навучыцца з маленства быць шустрым у справах бізнесу, дык і ў жыцці яму будзе лёгка.

А, зрэшты, што яны зрабілі дрэннага?.. Во нядаўна адзін бізнесмен па радыё хваліўся, што талент да бізнесу ён адкрыў у сабе ўжо ў чацвёртым ці пятым класе пачатковай школы. Ідучы на ўрокі, купляў у краме кілаграм цукерак, але не частаваў імі сяброў, о не! Ён у школе прадаваў ім па адной цукерачцы, ды па трайной цане. Не кожны мае такі талент.

Да маіх хлопцаў я магла мець прэтэнзію за адно: што прапанавалі мне мыць самаход, а ў руках ніводнага я не ўбачыла не толькі нейкага вядзерца з вадою, але ні губкі, ні анучкі; што гаварылі пра падручнікі, але хто на іх збірае — гэтым не хваліцца; урэшце за тое, што прыйшлі па грошы — хаця самаход не пільнавалі.

Прадпрымальніцтва ці будучая мафія?! Відаць, гэтыя дзеці адкрылі ў сабе крыху іншы талент.

Урэшце і так гэта лепшае, чым напасці на чалавека! Пару дзён таму на сына майго калегі, чатырнаццацігодка, які стаяў у белы дзень каля дзвярэй рэдакцыі, чакаючы бацьку, напалі ягоныя равеснікі: давай грошы! Малады бандытаў было пяцёра. Пяцёра на аднаго!

Нават калі б зланіў хоць аднаго, дык што ты яму зробіш: малога і так не пакараюць, а старэйшы паводле новага карнага кодэкса ў крайнім выпадку заплаціць штраф. Нават калі заб'е чалавека, то ён спакойны: кару смерці адмянілі, а некалькі гадоў пасядзець можна. Жыццё ж, яно доўгае...

**Ада Чачуга**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 24**

Чатыры інфармацыі з усходняй Беласточчыны змешчаны былі ў 28/29 нумары „Нашай нівы". Дзве з іх ахарактарызаваны ўжо ўжо ў папярэднім адрэзку, а дзве астатнія прыводжу цяпер. Першая з іх была падпісана літарай „Н" і датычыла вёскі Крывой. Падзея ў ёй апісаная ў ніякім выпадку не можа быць залічана да вясёлых ці гумарыстычных. Наадварот, многа ў ёй сялянскага болю:

„Вёска Крывая, Бельскі павет, Гродзенская губерня. Тут арыштавалі селяніна Бэзюка за тое, што ён болей за ўсіх стараўся, каб валасны сход адмяніў прыгавор даваць штогод з волосці па 15 руб. на кватэру для жандара ў горадзе Бельску. Як толькі прыгавор сход адмяніў, дык жандар арыштаваў Бэзюка і той сядзіць ужо болей як месяц. Жонка атрымала з турмы пісульку, каб улажыла 30 рублёў у чайнік на дно, закрыла бы іх другім дном, а наверх наліла малака, дый прынесла мужу ў турму, дык ён выкупіцца. Жонка так і зрабіла; але ў скорасці даведалася, што муж і не думаў пісаць і грошы да яго не дайшлі, а зрабілі гэты падвох турэмныя надзірацелі і грошы забралі сабе. Болей грошы Бэзючыха не мае, а Бэзюк сядзіць усё яшчэ ў турме і гаспадарка прападае".

Другая інфармацыя падпісаная псеўданімам „Nemo" мела болей аптымістычны характар. Датычыла яна здарэння ў Трасцянцы. Вось яе кароткі змест:

„Вясковыя хлопцы зайшлі да аднаго жыда, калі там сядзеў і піў гарэлку вураднік. Хлопцы хацелі, каб і ім жыд даў гарэлкі, але той не даў.

— Чаму ж чыноўнікам можна, а нам не? — пытаюць хлопцы, дый падалі гэтаму самому вурадніку жалабу на жыда, што той цішком прадае гарэлку; але вураднік жалабу зніштожыў. Тады хлопцы напісалі губернатару. Вурадніка перамяшчаюць у другое места".

У дзесяці наступных нумарах „Нашай нівы" не паявілася ніводная інфармацыя аб усходняй Беласточчыне. Затое ў саракавым нумары тыднёвіка ад 14 кастрычніка 1909 года Халімон з-пад Пушчы змясціў досыць абшырны артыкул пад загалоўкам „Народны тэатр". Датычыў ён, як пісалася, першага на Гродзеншчыне аматарскага тэатра, які ўзнік у Кленіках. Зрэшты, на першай старонцы газеты быў змешчаны здымак больш чым дваццаці кленіцкіх народных акцёраў. Варта прывесці абшырныя фрагменты гэтай цікавай публікацыі:

„Вёска Кленікі, Гродзенская губерня, Бельскі павет. Яшчэ на Каляды нашы студэнты параілі нашым сялянам зрабіць тэатр. Адзін наш студэнт, беларус, прачытаў яе [п'есу] сялянам: тыя зараз жа згадзіліся і падзялілі памеж сабой ролі ў камедыі. Маладыя дзяўчаты ні за што не хацелі прадстаўляць старых баб і прыйшлося ролі дзяліць па ўзросту. За тэатр узяліся з вялікай ахвотай і рабілі ўсе рэпетыцыі сур'ёзна і акуратна. Акцёры былі ад 17 да 40 гадоў.

Старыя бабы, падперыш бароды рукой, казалі з непрыхільнасцю: «што гэта яны ў новую веру пераходзяць ці што, што ўжо другімі прозвішчамі завуцца?» Іх дзівіла, што сяляне ў час ігры называлі сябе тымі іменамі, што стаяць у камедыі. Але гэтыя малыя перашкоды не папсавалі справы і калі надышла пара іграць у горадзе, нашы сяляне-акцёры з торбамі за плячыма рушылі пехатой у Бельск за 18 вёрст. Акурат у дзень тэатра, 20 сенцябра, выпала вяселле адной дзяўчыны — нашай акцёркі, але яго справілі на два дні раней. На вяселлі была ўся тэатральная грамада. Яшчэ за колькі дзён у Бельску былі расклеены афішы аб сялянскім тэатры. Грамадзянства было надта зацікаўлена і ў клуб, гдзе ігралі, назбіралася шмат народу. Ігралі надта добра і камедыя ўсім спадабалася. (...) Цяпер у нашай вёсцы кажуць: «Што ж хоць мы і мужыкі, але таксама як і паны, і чыноўнікі, можам і кнігі чытаць, і тэатры рабіць».

Увесь даход з тэатру пайшоў на вясковую народную бібліятэку-чытальню. Усе вёскі кругом у нас, толькі і гавораць аб тэатры".

Рэдакцыя „Нашай нівы" інфармавала, што многія жыхары іншых рэгіёнаў Беларусі выявілі таксама жаданне арганізаваць у сябе тэатр. Аднак рэалізаваць гэту мэту было цяжка з прычыны недахопу беларускіх п'ес. Рэдакцыя інфармавала, што такія п'есы ўжо ёсць, але няма грошай для іх публікацыі.

„Хто сколькі можа няхай прысылае грошы ў рэдакцыю на гэту святую справу, а тады скоранька іх выдамо і па ўсёй Беларусі будзе народны тэатр у роднай нашай беларускай мове", — заклікала „Наша ніва".

**Алесь Барскі**

# З палону ў палон

**Пра беларускія долі-нядолі расказвае Аляксандр Грыгарук з Гарадзіска, Нарваўскай гміны, народжаны ў 1910 годзе.**



**Бежанства**

Пры цары мой бацька працаваў гаёвым у *Поедынаках* — у Савіным Грудзе, што каля Дубін. Калі набліжаўся фронт, прыйшоў царскі загад, каб лясныя працаўнікі эвакуіраваліся на ўсход, бо цар баяўся, што як прыйдзе немец, то паб'е служачых. Заехалі мы ў Ніжненоўгарадскую губерню, дзе бацька атрымаў пасаду гаёвага; да найбліжэйшай вёскі было ад нас дзесяць кіламетраў. Незадоўга, аднак, мы перабраліся ў другую мясцовасць, бо бацька перайшоў у пажарную ахову. Недалёка была школа і я пачаў вучыцца. Вучыўся толькі адзін год, бо калі пасля рэвалюцыі насталі Ленін і Троцкі — перасталі вучыць. Пажарнікі жылі *в общем доме*; паасобныя сем'і — *в общих комнатах*. З прыходам рэвалюцыі пажарнае начальства разбеглася, а пажарная каманда расцкідалася. Бацька працаваў прыхваткам у тартаку, рубаў абрэзкі на дровы. Станавілася штораз цяжэй: нічога нельга было купіць, усё было на талоны. А спачатку было вельмі добра: мясцовае насельніцтва вельмі цёпла сустракала нас, бежанцаў; прыносілі ўсялякае дабро і клалі на нашы вокны. І калі бацька меў пастаянную працу, жылі мы нядрэнна.

Улетку 1920 г. сям'я наша рашыла вяртацца на радзіму. Бальшавікі далі нам воз і фурмана. Возам прыехалі аж у Вільню. Харчаваліся хлебам з непрасеянага аўса; раз бацька такім хлебам нават прыдавіўся. Бальшавікі не хацелі нас прапусціць цераз лінію фронту, каб нас не пабілі, аднак мы не чакалі, рызыкнулі і пераехалі. У Вільні селі на поезд і прыехалі ў Гайнаўку. Калі праязджалі каля *Тадэушаў* — Звадзецкага, бацька выкінуў картку, каб матчын брат, які там жыў, прыехаў у Гайнаўку і забраў нас.

**Пры санацыі**

У дзядзькі, на мамінай бацькаўшчыне, жылі мы некалькі месяцаў. Бацька шукаў працу і стаў на пасаду стоража ў *Хімічнай* у Гайнаўцы. Пераехалі мы і жыць на завод. Спачатку рабочых было мала, таму і бацька атрымаў працу, аднак пазней людзей на *Хімічнай* прыбывала і маці настойвала, каб кідаць завод і вяртацца на вёску. У 1922-23-м годзе перабраліся мы ў Гарадзіска, бо там была дзедава зямля. Я пайшоў у школу ў Барысаўку, у якой закончыў чатыры класы. А бацьку пасля года-двух на гапарцы ўдалося стаць на працу гаёвым — так, як і пры цары. Гаёўкі не было і бацькі жылі ў сваёй хаце.

Адзін з маіх братоў вучыўся на каваля ў Заблочыне і хацеў у бацькі кузню паставіць і ажаніцца, але бацька не згадзіўся на тую жаніцьбу, бо дзяўчына яму не спадабалася. Тады брат пакінуў сям'ю і выехаў у Амерыку; там пазней ажаніўся з дзяўчынаю з Пружанаў. А адзін з маміных братоў таксама выехаў у Амерыку, там за камуністычную агітацыю папаў у турму, пасля нехта яго падстрэліў і ён там памёр.

У 1933 годзе я вярнуўся з войска — служыў у сапёрскай часці ў Модліне-Казуні. Тады бацька пайшоў на пенсію, а я стаў на яго месца; дарэчы, перад войскам не прымалі на працу. Праз некалькі гадоў я ажаніўся. У 1938 годзе нарадзіўся нам сын, а ў верасні 1939 года, незадоўга да нараджэння дачкі, мабілізавалі мяне на вайну, у Казунь.

**Вайна**

Спярша накіравалі нашу часць у Варшаву, пасля ў Гуру-Кальварыю ды ў Гарволін, а там нам немцы перасеклі маршрут і мы зноў вярнуліся ў Варшаву. Мініравалі Віслу. На беразе расцягалі канат, да яго прывязвалі дзеравяныя брусы, як шпалы, і на іх клалі міны. Трэба было адзін канец каната пераправіць на другі бераг Віслы. Паручнік вызваў дабравольцаў — ніхто не выступіў, а было нас трыццаць чалавек. Тады паручнік сказаў, што калі не знойдуцца дабравольцы, тады нам усім расстрэл. Тады выступіў я і яшчэ адзін варшавяк, Жаба называўся. Паставілі мы міны і вярнуліся на свой бераг; паручнік абяцаў нам адзнаку.

У Варшаве ўжо грабілі магазіны, некаторыя хапалі дабро, а я з сябрам — скрынку гарэлкі. І тых другіх пабілі, а нам удалося. З'явіўся немец, накіраваў на мяне дула, а я на яго, аднак паадводзілі, і яшчэ папяросамі частаваліся на развітанне.

**У нямецкім палоне**

28 верасня здалася Варшава і мы таксама ў форме здаваліся немцам. Загналі нас пяшком пад вечар у Яблонну і сказалі: дадому не пойдзеце, бо цёмна, па-нямецку не ўмееце і могуць вас немцы пастраляць; адпусцім раніцай. А рана прыехаў на кані нямецкі афіцэр і загадаў сабраць усіх — пагналі нас пяшком у Млаву. У Млаве пасадзілі на поезд і завезлі ў лагер. На загароджаным полі спярша пад адкрытым небам, пасля пад палаткамі, а пазней і баракі паставілі. Кармілі слаба: з запарніка па 5-6 бульбаў у фуражку. Мы прыбіралі каля казармаў, але не штодзень. Правялі мы там паўгода, а вясною разаслалі да гаспадароў; я трапіў у Генрыксвальдэ каля Элка.

Аднойчы на выплату вахтман загнаў нас у карчму. Прыйшоў паліцай і загадаў нам устаць. А вахтман загадаў сядаць. І падзерліся яны з сабою; а платнік з выплатаю і так не прыехаў. На другі дзень усіх нас вывезлі; я трапіў пад Тыльзіт, дзе быў аж да 1945 г. Гаспадары да беларусаў ставіліся добра, бо лічылі яны, што беларусы паходзяць з нямецкай крыві; так сказаў адзін нямецкі афіцэр. У 1940 годзе цісьнулі вялікія маразы і гаспадаровы дзеці прывозілі нам ежу санкамі, у якія запрагалі сабак.

Перапісваўся я з бацькамі і даведаўся, што маіх жонку і маленькіх дзяцей саветы ў лютым 1940 года вывезлі ў Сібір. Мелі вывезці і бацькоў, але не ўспелі.

Зімою 1945 года забралі мяне ад гаспадара капаць акопы; норма была пяць метраў пехацінскага акопа. Капалі розныя акопы, у іх ліку і супрацьтанкавыя *Panzergraben* — пяць метраў шырыні і тры метры глыбіні. Капалі кіркамі ад Інстэрбурга да Кёнігсберга. І бункеры бетонныя будавалі ў полі. Кармілі нас слаба.

Ноччу з 6 на 7 красавіка рускія бамбілі немцаў цэлую ноч; немцы паўцякалі. Мы схаваліся ў бункеры, удзень бомба папала ў наш бункер — некалькіх чалавек забіла, некалькіх раніла. У наступную ноч, калі ўсе спалі, у наш бункер уварваўся савецкі разведчык, лейтэнант:

— Что здесь за народ?! — разбудзіў ён нас. — Что вы здесь делаете?

— Сидим, — адказваем.

— Всю жизнь будете здесь сидеть?

— А мы не ведаем куды падацца.

— Вы лучше знаете чем я! Пришлю троих пехотинцев и они вам укажут перебегать к русским.

І прыслаў; загадалі перабягаць у групах па 3-4, паказалі дарогу. А кулі лёталі, як з агню іскры, але ўсе цэлымі перабеглі.

*(заканчэнне будзе)*

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

**Апанас Цыхун**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

***(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)***

**Частка XIV**

Жывучы працяглы час у вёсцы Кунцаўшчыне, я цікавіўся, як праходзілі кірмашы і таргі ў навакольных мястэчках, асабліва ў Індуры, якая знаходзіцца ў сямі кіламетрах ад маёй роднай вёскі. З літаратуры я даведаўся, што не адзін раз праз маю вёску праязджала на торг у Індуру пісьменніца Эліза Ажэшка. Аб індурскіх таргах яна успамінае ў сваіх творах, толькі Індуру не называе сваім прозвішчам.

Таргі ў Індуры заўсёды адбываліся па аўторках, адзін раз у тыдзень. Праводзіліся яны на галоўнай плошчы каля яўрэйскай сінагогі. Сяляне з навакольных вёсак везлі на продаж у асноўным збожжа. Вялі таксама коней, кароў, везлі авечак, цялят, курэй. Характэрна, што ў калыханках матулі ці бабулі напявалі аб гэтых кірмашах, у тым ліку і пра торг у Індуры. Запісаў я такую прыпеўку ад сваёй цешчы А. П. Хрысціны Зянкевіч з вёскі Свіслач.

Гай-да-да! Гай-да-да!  
Паедзем да Скідля — па быдло!  
Да Росі — па гусі.  
Да Ражанкі — па абаранкі.  
Да Індуры — па куры.

Да Індуры на торг ехалі і ішлі людзі старэйшага і сярэдняга ўзросту і моладзь. Прыбывалі рознага роду памагатых у куплі і продажу: махляры, пасрэднікі, т.зв. васмахтары, хабарнікі. А цыганы прадавалі і мянялі коней, ашуквалі сялян. Заможныя сяляне прыязджалі вярхом на сваіх жарабцах-выхваленцах, ворніках розных парод. Яны праязджалі паміж людзьмі. Кожны стараўся пахваліцца сваім канём, каб да яго прыводзілі больш кабыл да пакрыцця. Таргі ў Індуры праходзілі бурна, жыва, з барышамі, папойкамі. Аднак часта даходзіла да боек і панажоўшчыны.

Два разы ў месяц адбываліся слаўтыя кірмашы ў мястэчку Лунна. Адбываліся яны на плошчы каля былой уніяцкай царквы. Мястэчка тады ажывала, звінела ад стуку аб брук колаў сялянскіх вазоў, рыку кароў, піску свіней, людской гамонкі, музыкі. Кірмашы ў Лунне славіліся бандарнымі вырабамі, асабліва майстроў з вёскі Бандары, якія прывозілі балеі, цабэркі, ушаты, дзежкі, бойкі, кваскі, бочкі двухдонныя на сіроп, бочкі на капусту, так званыя кадкі, дойніцы, даёнкі, конаўкі для піцця вады, стаўніцы для захоўвання збожжа, кублы для адзежы. Бандарам не ўступалі сваімі вырабамі ганчары. Жыхары вёскі Гліняны, што на Скідальшчыне, славіліся вырабамі з чорнай гліны. Не ўступалі ім і ганчары з вёскі Тарасюкі. Гаршкі, збанкі, ладышкі, верцехі, глякі прадавалі і ганчары з-пад Гародні, з вёсак Габулічы, Малахавічы, Альшаніцы і Цвіклічы.

На лунненскіх кірмашах вялікі попыт быў на вырабы з лазы. Гэтымі вырабамі славіліся жыхары вёскі Канюхі, што ў Азёрскім сельсавеце. Яны прывозілі калупашкі, кошыкі, бучы для рыбы. Добра прадаваліся вырабы з лазы і саломы: севанкі, сявенькі, гарцы, карабы для захоўвання збожжа, пасвянцоўкі, розныя кошыкі. Вырабамі з саломкі славіліся калісьці жыхары вёскі Саломенка, аб чым сведчыць і назва вёскі. Сяляне з вёскі Стральцы, што на Скідальшчыне, прывозілі на кірмашы свае вырабы з драўніны: церніцы, ламачкі, трапачкі, шчоткі для апрацоўкі лёну, сані, гнутыя дугі, разворкі да вазоў. Стальмахі з вёскі Бубны прадавалі калёсы да вазоў, калёсы для драўляных плугоў, драўляныя плугі і бароны ды іншыя прылады.

На лунненскіх кірмашах гандлявалі таксама жывёлай, а ў здзелках дапамагалі сялянам фактары, васмахтары, махляры, перакупшчыкі, асобы з ліку яўрэяў. Часта прыязджалі цыганы. Яны ў асноўным гандлявалі коньмі. Каб лепей выглядаў конь ці кабыла, яны іх нейкім спосабам надувалі, у выніку чаго коні выглядалі ўскормленымі, поўнымі, гладкімі. А каб бадзёрымі былі, цыганы паілі коней гарэлкай. Адным словам, цыганы часта абдурвалі сялян.

Звычайна, пад канец кірмашу, прыходзілі музыканты: гарманіст, скрыпач і бубніст. Да глыбокай поўначы не сціхала музыка, гулянне. Толькі на світанні моладзь разыходзілася па хатах.

Лунненскія кірмашы садзейнічалі збліжэнню людзей, моладзі, калектыўнаму адпачынку, збыту і куплі розных тавараў, жывёлы. Прыносілі сялянам вялікую карысць. Аднак яны часта канчаліся трагічна. Паміж хлопцамі з розных вёсак узнікалі бойкі. Асабліва агрэсіўнымі лічыліся занямонцы — хлопцы (кавалеры, як іх называлі) з-за Нёмана. Не абыходзілася, каб яны каго-небудзь з хлопцаў не пабілі, парэзалі або і забілі.

*(працяг будзе)*

# Аб дабрадушнасці немцаў

Міхась Куптэль у сваёй адгалосцы „Немцы — дэмакратычны народ" („Ніва" н-р 34) хваліць немцаў да неба.

Так, з немцаў выйшлі вялікія геніі і вынаходцы, як Г. Гейне, Л. Кранах, І. С. Бах, Р. Кох, К. Шынкель... Гэта высакародна! Але хачу спытаць сп. Куптэля: хто былі крыжакі, якія агнём і мячом калісь уводзілі хрысціянства па цэлай Еўропе, а нават па-за яе межамі? Мне здаецца, што дабрадушныя і культурныя немцы. Адкуль выйшаў фашызм з „культурным" канцлерам Гітлерам? За ім жа амаль усе немцы сталі гарою, бо ён абяцаў ім залатыя горы і тысячагадовы рэйх, у якім яны, як цары, мелі панаваць над зняволенымі народамі. Хто распачаў другую сусветную вайну, у якой загінула больш за пяцьдзесят мільёнаў нявінных ахвяр і былі зруйнаваны тысячы гарадоў і вёсак? А хто прыдумаў страшэнны *Галакост*, тыя фабрыкі смерці, мэтай якіх было поўнае знішчэнне яўрэяў? Амаль усе яўрэі, якія апынуліся пад нямецкай акупацыяй, загінулі. Камуністы такога не рабілі, хаця пра іх сёння дрэнна пішуць. Папраўдзе, камунізм — гэта найлепшая ідэалогія і навука, але, на жаль, людзі няправедныя і фальшывыя, таму і камунізм развяліўся. Але капіталізм намнога горшы ад таго „дрэннага" камунізму, які быў у нас. Бо былі ў нас і добрыя і высакародныя паклоннікі камунізму, але яны сastаўлялі меншасць.

Так, немцы добрыя, але толькі для сябе — гэта сп. Куптэля страшэнна абурае, а руская ў яго нішто. Але каб не яны, дык па яўрэях у вогненную печ пайшлі б палякі, а пасля мо і мы — беларусы. На сходзе падчас акупацыі адзін нямецкі аграном гаварыў сялянам: „Вы для вялікага рэйха непатрэбныя, а толькі патрэбная зямля, на якой вы пражываеце. Нам з вашай вялікай вёскі хопіць дзесяць добрых гаспадароў, а рэшта — за стадолу і бэнц!" Каб не тыя „кепскія" рускія, дык мо сёння сп. Куптэль пасвіў бы дабытак у нейкага „добрага" нямецкага гаспадара. Са слоў сп. Куптэля вынікае, што наша моладзь на прымусовыя работы ехала не так ужо і прымусова. Мой дзед Шуль падчас акупацыі паехаў на заробак, пілаваць дрэвы недзе ў Прусіі, але хутка „нарэзаў вінт", гаворачы: „Гэта ўжо не тыя немцы".

Калі ў верасні 1939 г. немцы ўвайшлі ў Дубічы-Царкоўныя, нямецкія салдаты раздавалі нашым дзецям цукеркі, шакаладкі ды іншыя ласункі. Здавалася, што немцы — гэта залаты народ; такі, якім яго апісвае сп. Куптэль. Але ўжо ў чэрвені 1941 г., калі яны напалі на Савецкі Саюз, яны сталі горшымі ад лютых звяроў. І на іх сумленні акіян нявінна пралітай крыві, здзекі, разбурэнні і духовая пустата. Хаця немцы і адкрывалі беларускія школы ў Беларусі, іх ахвярай стаў кожны чацвёрты жыхар Беларусі; ці не ведае пра гэта сп. Куптэль?

Калі летам 1941 г. настала нямецкая акупацыя, адзін дзядзька, Емяльян, пачаў расхвальваць немцаў за іх гаспадарлівасць і гаварыць, што яны дадуць нам, беларусам, добрыя ўчасткі зямлі і прасторныя дамы. А цётка Васыліха, сям'я якой не паехала ў бежанства, а жыла пад першай нямецкай акупацыяй, адказала Емяльяну: „Вы, дзядзька Емяльян, не хваліце немца, бо не ведаеце, які ён, а ўчасткі зямлі і прасторныя дамы так будзеце бачыць, як свае вушы: ажно вам горка зробіцца." І скора Емяльян спазнаў смак нямецкай культуры і дабрадушнасці, бо ў Орлі, у чарзе за нечым, першым дастаў бізуну ад нямецкага жандара толькі за тое, што захацеў пагутарыць з ім панямецку.

І цікава, калі б сённяшняя Германія перажывала такі гаспадарчы крызіс, як у 20-30-я гады, і калі б з'явіўся другі фюрэр, абяцаючы залатыя горы і райскае жыццё, дык хто ведае, ці дух рэваншызму і пагарды не адрадзіўся б у новых, культурных і дабрадушных немцаў, якія нас сёння гасцінна прымаюць, але за якую цану... Працаваць як вол — за паўцаны, чысціць прыбіральні, замятаць вуліцы, прадаваць у бардэлях свае цела; так умеюць усе капіталісты, бо адзін у іх дух.

Не ўсе немцы роўныя і напэўна многа добрага можам навучыцца ў іх. Але гэта не абазначае, што яны — народ першага класа, а мы — другога. Яны нічуць не лепшыя за нас ці за рускіх, а таксама і нічуць не разумнейшыя. І паўтараю яшчэ, што рускія перавышаюць сваёй гасціннасцю, спагадай, адкрытым сэрцам і любоўю ўсе народы, не абмінаючы і „добрых" немцаў.

Я пішу праўду, а не боўтаю чытачам у галовах, а боўтае сп. Куптэль ды паскудзіць сваё славянскае гняздо і выхваляе да неба тых, якія нядаўна ўсіх нас лічылі горш быдла, якое мела ісці або ў вогненную печ, або ў бойню. Такія злачынствы ніколі не забываюцца.

**Мікалай Панфілюк**

Адгалоскі

# Не трэба складаць рук

У 29 нумары „Нівы" ад 19 ліпеня г.г. Пётр Байко ў допісе „Крытыка не даходзіць!" ставіць пытанне, ці ёсць сэнс друкаваць крытычныя публікацыі, калі і так ніхто не рэагуе на крытыку?

Над гэтай праблемай і я неадночы задумваўся, паколькі большасць маіх матэрыялаў мае крытычны характар. Трэба з сумам прызнацца, што адмоўнай з'явай было адмяненне закону, які забавязваў даваць адказ на прэсавую крытыку.

Добра памятаем ніўскую рубрыку „У адказ на крытыку", на якой паасобныя ўстановы і адказныя чыноўнікі паведамлялі, як рашыліся кранутыя ў артыкулах праблемы. Зараз таму не быць. Прапала камуна а разам з ёй і закон аб рэагаванні на прэсавую крытыку.

Аднак, сродкі масавай інфармацыі (у тым ліку „Ніва") не спынілі друк крытычных публікацый. Нельга прыжмурваць вачэй на адмоўныя хібы паасобных людзей і ўстаноў, зладзеяў грамадскай маёмасці. Грамадства павінна ведаць хто ёсць хто, а тым больш, калі стаім напярэдадні самаўрадавых выбараў.

Калі мы рашылі стаць карэспандэнтамі, абавязаны інфармаваць аб усіх падзеях сваё асяроддзе добрасумленна і не абмінаць фактаў, нягледзячы на тое, якімі яны з'яўляюцца і каго тычацца. Толькі тады апраўдаем давер сваіх чытачоў. Не трэба складаць рук, калі артыкул не вырашыў праблемы. Важна тое, каб асобень, якога тычыцца справа, не думаў, што яна стала ўжо забытай.

У народзе гавораць: „Хто стукае ў дзверы, таму адчыняюць". І я так раблю.

Калі я ўпэўнены, што праўда на маім баку, дабіваюся да таго часу, пакуль не атрымаю рэзультату. І хачу сказаць, што такі спосаб развязкі праблем даў мне задавальненне і станоўчыя вынікі.

**Уладзімір Сідарук**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Снілася мне, што запрасілі мяне на той свет у гасціну. Заходжу, за сталамі поўна незнаёмых людзей, а для мяне месца няма. Я без крыўды сабралася і выйшла.

А вось і другі сон. Прыснілася мне мястэчка Мір, а перш за ўсё Мірскі замак. Ён быў поўнасцю адбудаваны — новыя муры з новых і часткова старых, але цэлых, цаглін. Але не было туды аніякага ўваходу, ані брамы. Добра памятаю яго від ад возера, пасля я хаджу наўкола, і ніяк не магу туды ўвайсці.

**Міра**

Міра! Твой першы сон прадвяшчае нейкую сумную падзею. За гэта гаворыць тая гасціна на тым свеце, на якую цябе запрасілі. Там было поўна незнаёмых людзей, а гэта сведчыла б аб страце самастойнасці. Сама ж ведаеш, як цяжка бывае, калі чалавек не можа рабіць тое, што хоча, а вымушаны жыць пад дыктоўку. Пацяшае факт, што ў гэтай кампаніі, ды яшчэ на тым свеце, не хапіла табе месца і ты выйшла з „гасціны". Мо пазбудзешся таго неспадзяванага смутку.

Цяпер наконт другога сну. Ён сведчыць аб вечнай залежнасці ў тваім жыцці. За гэта гаворыць той непрыступны замак, у які ты не можаш знайсці ніякага ўваходу, ані брамкі. Нешта замкнута перад табой, як крэпасць.

Не перажывай, аднак! Кожны з нас жыве ў нейкай залежнасці то ад сям'і: ад патрабавальнага мужа, няўрымслівых дзяцей-распуснікаў, хворых і недалужных бацькоў, то ад мала талерантнага, нягоднага шэфа, якому трэба рад не рад падпарадкавацца.

Трэба ўмець да ўсяго гэтага дастасавацца і выбіраць у жыцці толькі найбольш неабходную залежнасць. Мяркую, што гэта табе ўдасца. Найгорш, аднак, калі маеш клопаты на рабоце: з працай, даражэнькая, сёння цяжка, дык мо дзе што і сцярпець трэба.

**Астрон**

# Гайнаўскі дом культуры запрашае...

...усе зацікаўленыя асобы на заняткі ў мастацкіх калектывах. У ГДК па вул. Беластоцкай 2 у верасні будуць праводзіцца заняткі ў рамках калектыву песні і танца, лялечнага тэатра, танцавальнага кружка, гуртка жывапісцаў. Інструктары будуць вучыць іграць на музычных інструментах (скрыпка, гармонік, піяніна, флейта і гітара).

Запісацца можна таксама па тэлефоне: 682-32-03). **(гай)**

# Komunikat

Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Białymstoku prowadzi śledztwo w sprawach zbrodni jakich dopuścili się w Regionie Białostockim oficerowie i żołnierze niemieccy zarówno we wrześniu 1939 r., jak też w czerwcu 1941 r. i w 1944 r. podczas wycofywania się Wehrmachtu z naszych terenów. Poszukiwani są zarówno świadkowie zbrodni i aktów terroru, jak też członkowie rodzin ofiar. Prosimy o ich imiona, nazwiska, adresy, a także zdjęcia, listy z obozów jenieckich, fotokopie dokumentów, pamiątki po zamordowanych i poległych, wspomnienia uczestników walk.

Chcemy wiedzieć kto z mieszkańców Regionu Białostockiego zginął na frontach II wojny światowej, poległ w działaniach partyzanckich, utracił życie wskutek terroru obu okupantów.

Informacje i materiały prosimy kierować — wyłącznie korespondencyjnie na adres: Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Białymstoku, ul. Mickiewicza 5, tel. 7 430-394, 15-950 Białystok.

# Знаходка

У рэдакцыю „Нівы" па сваю згубу можа прыйсці рассеяны ўласнік „Фіата" — ключ з цэнтральным замком да ягонага аўто знайшлі ў Гайнаўцы на аўтобусным вакзале.

# Прэзідэнт у Інтэрнэце

На Free Belarus Online з'явілася старонка з даведкай пра беларускага прэзідэнта. На ёй з цалкам сур'ёзнымі матэрыяламі суседнічаюць нестандартныя здымкі. Электронны адрас: http://www/aubg.bg/cj/~vik960/belarus/lukash.htm

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міранові.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Нявестка

Ой куе зязюлька
Дзесь там у лясочку,
Аддавала мама
Замуж сваю дочку.

Аддавала мама
І так гаварыла:
— Будзь жа ты, дачушка,
Свякрусе сваёй міла.

— Буду я старацца,
Мама дарагая,
Толькі ведай тое:
Яна мне чужая.

І жыве дачушка
Першыя дзянёчкі,
Аглядае ёй свякруха
Сукенкі і сарочкі.

І кажа нявестцы:
— Штосьці малавата,
Я, як выйшла замуж,
Больш была багатай.

Ручнікі, абрусы
І кужаль я мела,
І прасці, і ткаці
Сама я умела.

Скажы мне, нявестка,
Дзе больш твае рэчы?
Ці ты цяпер умееш
Наварыць у печы?

І нявестка кажа:
— Мама дарагая,
Ці жа ж ты не знаеш:
Мода не такая!

Ткаці я не буду,
Печы я не маю,
Лепш тую хвіліну
Мужа пакахаю.

Свякроў з абурэння
Уся задрыжала:
Нявесткі з сыночкам
У ложку не ўяўляла!

— Гэта немагчыма! —
Усклікнула свякруха.
А нявестка кажа:
— Матуля, паслухай:

Як жа без кахання
Сын у вас аказаўся?
— Я сама не знаю
Адкуль ён узяўся.

Кахацца, дарагая,
Не дам вам даволі,
Бо ўсіх нас чакае
Работа у полі.

— Дарагая мама,
Часы ўжо не тыя:
У бусла мы не верым;
Мы ўжо не такія.

Дзеці нашы будуць
Не ад буслаў з неба.
Дарагая мама:
Вучыць нас не трэба!

Работа не заяц,
Нікуды не ўцякае.
Як кахаю мужа,
Яна хай пачакае.

Узняла свякроў рукі,
— Божа! — закрычала, —
Такога кахання
Я яшчэ не знала.

**Ніна Мінько**




*У Мінску і Маркс, і капітал.* Фота Міраславы ЛУКШЫ

Фрашкі пра нашых

## Вумнасці

Самы вялікі грэх дурнога,
Што гэтым хваліцца замнога,
Сваю бязглуздасць скарбам робіць,
Лысую палу ў лаўры здобіць,
Дзе нават рогі не клююцца.
Няхай нашчадкі разбяруцца,
Хто след пакінуў герастрата,
А хто ратая, хто сакрата,
Хто ўсё жыццё плёў кашалі,
А хто лампаду запаліў,
Свае ізвіліны праветрыў,
Перш сам сябе не ўвёў у нетры.

**Вандал Арлянскі**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. сцябліна, 3. сталіца ВКЛ, 5. яшчэ не прафесар, 7. доўгія заплеценыя разам валасы, 9. журба, 10. з'яўляецца ім напр. БГКТ, 11. прычына пакарання, 12. адтуліна з падвешаным мяшэчкам на краі більярднага стала, 14. сталіца Калумбіі, 16. правы прыток верхняй Амазонкі, 17. маладыя расліны прызначаныя для перасадкі на градкі.

**Вертыкальна:** 1. празрыстая папера, на якую здымаюцца дакладныя копіі чарцяжоў, 2. $H_2O$, 3. прыводзіць у рух параход, 4. рака, на якой у 1067 г. Усяслаў Чарадзей даў бітву кіеўскаму князю Ізяславу, 6. апарат для механічнага раздзелу сумесі на састаўныя часткі пад дзеяннем цэнтрабежных сіл, 8. д'ябал, 9. дзяржава са сталіцай у Фунафуці, 11. мост над ярам, 13. скрытае размяшчэнне войск з мэтай нечаканага нападу на праціўніка, 14. выспа і мора ў Інданезіі, 15. упакоўка.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку 31 з нумара**

**Гарызантальна:** Кігалі, страха, стакан, Кама, рала, канібалізм, жаль, ахоп, Чыкага, зігота, зарука.

**Вертыкальна:** кілька, ліст, стан, хамула, акрабатыка, Макаль, размах, жалюзі, оптыка, Чыта, Газа.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока і **Міхалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— У цябе грудзі, — шэпча муж жонцы, — як разынкі...
— Такія салодкія?
— Такія паморшчаныя.

* * *

Паміж людаедамі:
— Прапала мая жонка. Ці не бачыў ты яе?
— Не.
— А што жуеш?

* * *

— Даўней ездзілі ў даўжэйшыя чым цяпер пасляшлюбныя падарожжы.
— Гэта праўда; але цяпер ездзяць часцей.

* * *

Муж з жонкаю вяртаюцца з паховін цешчы. Раптам з даху падае дахоўка ды разбіваецца тры сантыметры ад яго ног.
— Бачыш, каханы, — гаворыць жонка, — наша мамачка ўжо ў небе.

* * *

Пара на тапчане распальвае страсці. Раптам звоніць тэлефон. Яна падымаецца, бярэ трубку і праз хвіліну вяртаецца.
— І хто гэта званіў? — пытае ён.
— Мой муж.
— І што сказаў?
— Паведаміў, што прыйдзе пазней, бо цяпер іграе з табою ў карты.

* * *

На лаўцы ў парку прысеў падпіты мужчына і заплакаў:
— Усе з маіх сяброў некага маюць, толькі адзін я жанаты.

* * *

Падчас сеансу ў кіно раздаецца жаночы голас:
— Забярыце свае рукі!
Праз хвіліну:
— Не вы, толькі той другі!

* * *

Размаўляюць дзве маладыя замужнія сяброўкі:
— Ці ты варыш свайму мужу абеды?
— Рэдка. Вару толькі тады, калі пасварымся і хачу яму яшчэ больш дапячы.